PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 25 (1936) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 20 ЧЭРВЕНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## АПОШНІ З'ЕЗД БГКТ

**XII З'езд БГКТ паказаў таксама, якія вялікія амбіцыі і таталітарныя памкненні мелі папярэднія ўлады БГКТ у адносінах да ўсёй беларускай грамадскасці ў Польшчы. Выразна гэтае можна было пачуць у прамовах Аляксандра Баршчэўскага, які поўнасцю аспрэчваў дзейнасць іншых беларускіх арганізацый. Былы старшыня дагэтуль яшчэ не вызваліўся ад ролі „адзінага прадстаўніка" беларусаў у Польшчы. Не прызнаў ён разнастайнасці беларускага асяроддзя, імкнуўся сканцэнтраваць у сваіх руках цэласнасць культурнай, асветнай, навуковай, а таксама палітычнай дзейнасці.**

*Уражанні і роздумы дэлегата XII З'езда БГКТ чытайце на староны 8.*



*Люблю я лес, сасновы бор...* **Фота А. Вярбіцкага**

## НА РАЗДАРОЖЖЫ

За апошніх пару месяцаў здарылася гэта ўжо другі раз. Малая дзяўчынка, другакласніца, вярнулася са школы з плачам. Не быў гэта плач з прычыны дрэнных ацэнак.

Недзе пад вясну, зімой яшчэ, дзеці пайшлі з настаўніцай у тэатр. У часе антракту дзяўчынка адна з першых пабегла ў буфет, каб напіцца. Пані сказала стаць у чаргу, і яна стала. Але іншыя падыходзілі і ўпіхаліся спераду. Яна, замест набліжацца да аранжады, усё аддалялася і аддалялася ад яе. Калі празвінеў трэці званок, высветлілася, што яна ў чарзе апошняя і шанцаў на піццё ўжо няма.

Убачыўшы сёння на парозе дачушку, заплаканую і замурзаную, маці перапужалася не на жарты. Што здарылася?

— Марта ў калідоры пры ўсіх павяліла мяне і ўселася на мой жывот, быццам, на нейкі матрац, ды гойсалася! — растлумачыла малая з такой крыўдай у голасе, што маці не вытрымала і ўпікнула яе:

— А ты што, не магла даць ёй, як трэба?!

Дзяўчынка перастала плакаць, падняла ад здзіўлення свае вялікія шэрыя вочы на маці і сказала станоўча:

— Я Марту біць не буду!

На працягу ўсяго яе невялічкага жыцця, колькі памятае яна, бацькі навучалі яе паважаць сяброў і сяброўак, не абгаворваць, дараваць ім іх слабасці, шанаваць настаўнікаў, быць ўчынай.

І на апошнім бацькоўскім сходзе выхавацельніца сказала пра яе: выхаваная і паслухмяная дзяўчынка. Маці была найбольш шчаслівая якраз з гэтай ацэнкі, а не з тых, што былі ў яе дзённіку.

Дык ці ж магла б яна ўдарыць Марту, яе сяброўку па парце, з якой дзялілася сваімі маленькімі радасцямі і няўдачамі?

Ї як пераканаць тут маленькую дзяўчынку, што сёння, каб быць на паверхні, адзінка мусіць быць моцная і ... без сантыментаў?! У школе павінна першая падняць руку, стукнуць непаслухмяную дзяўчынку кніжкай па галаве, а хлопца — каленам у яго слабое месца, улезці без чаргі ў школьным буфеце, каб паспець з'есці жаданую булачку на перапынку, і г. д. і т. п.

Цяжка растлумачыць дзіцяці, што набліжаемся мы да тых часоў, якія зменяць увесь наш менталітэт, усю нашу псіхіку. Здавалася, будуць гэта найлепшыя часы — высоказразвіты капіталізм з людскім тварам, які загарантуе ўсім дастатняе, „заходняе" жыццё. Выйшла якраз наадварот. Капіталізм наш тыпу краін трэцяга свету, крыважэрны і бяздушны, аддае перавагу людзям без этыкі, без маральных нормаў — як у звяроў: хто мацнейшы, той лепшы.

Маральныя вартасці, пра якія нямала гаворыцца там і сям, ідуць сваёй дарогай, а жыццё з яго цвёрдымі правамі — сваёй.

Уражлівыя людзі стаяць на раздарожжы: як выхаваць сёння, у новых умовах дзіця. Ці, калі сустрэнецца яно з актам агрэсіі, павінна ўдарыць нападаючага ў балючае месца, ці лепш адвярнуцца і пайсці ў другі бок? Але ж тады дзіця будзе асмешана і ізалявана.

Прыклады са свету дарослых яскрава даводзяць, што перамагаюць людзі, найбольш псіхічна адпорныя і баявітыя.

**АДА ЧАЧУГА**

# МІКАЛАЙ II НА ПАЛЯВАННІ Ў БЕЛАВЕЖЫ

*Яну Круку з Навасадаў 93 гады. Да I сусветнай вайны ён вучыўся ў двухкласнай Аляксандраўскай школе ў Белавежы. Многае запомнілася яму з гэтага перыяду, аднак найбольш - прыезд цара Мікалая II на паляванне ў 1912 годзе.*



- Нам, дзецям, - гаворыць Ян Крук, - было цікава пабачыць царскую сям'ю. А да таго яшчэ мы атрымалі ад цара і царыцы шакалад і шмат іншых ласункаў, школьныя прылады. Памятаю, што настаўніцам у жаночай школе царыца падаравала матэрыю на вопратку.

На паляванне з царскай сям'ёй ехала разам шмат гасцей. Асабліва многа было немцаў. Зрэшты, не толькі ў яго свіце, бо кіраўніком палаца і парку ў Белавежы быў немец Рэк (ён часта прыязджаў ва Упраўленне пушчы двухколкай, якую цягнуў прыгожы і стройна прыбраны конь), а электрастанцыяй кіраваў немец Арманд.

У час знаходжання царскай пары ў Белавежы, па прыватных дамах на Заставе размясцілася царская ахова, якую складалі чэркесы. У доме адной удавы, дзе я кватараваў, пасяліліся чатыры мужчыны. Кухню сваю чэркесы мелі над ракой, за агародамі застаўлянцаў. Мы часта бегалі туды крыху пад'есці. Цікава, што калі царскіх ахоўнікаў бачылася на Заставе паўсюдна, то падчас пераезду цара ніводзін на трапляўся на вочы.

Цар выязджаў на паляванне вельмі рана. З-пад палаца адпраўлялася кавалькада з 20-30 аўтамабіляў. Ніколі не было вядома, у якім едзе цар. З палявання вярталіся вечарам. Упаляваную звярыну патрашылі ў лесе, затым прывозілі яе пад палац і клалі з паўночнага боку, пад дубамі.

Штрэкі - агляды ўпаляванай звярыны адбываліся кожны дзень пасля вячэры. Звярыну клалі радамі паводле відаў, а паміж радамі клалі вянкі з галінак елкі або дуба. Калі ўсё было падрыхтавана, цар са світай паяўляўся на зашклёным ганку. На пляцу запальвалі ў той час агонь у двух знічах, якія ўзвышаліся на драўляных слупах. За імі стаяла паляўнічая служба (егеры, обереґеры) з трубкамі. Цар набліжаўся да звярыны. З правага боку падыходзіў да яго кіраўнік паляўнічай службы і прадстаўляў рапарт. Быў гэта Нэверлі, стары ўжо чалавек. З-за сівых валасоў мы, хлапчукі, далі яму мянушку "Цвілы". Нэверлі вельмі дрэнна гаварыў па-руску. Пасля рапарта цар падыходзіў да кожнай жывёлы, працягваў да яе шаблю, і ў той момант стральцы трубілі кожнаму ўпаляванаму віду адпаведны "гейнал". Пасля штрэка цар вяртаўся ў палац, а публіка разыходзілася. Упаляваную звярыну забіралі спярша ў лядоўню, а потым адпраўлялі ў Пецярбург або ў іншыя мясціны.

- Памятаю яшчэ, - працягвае Ян Крук, - нядзельнае набажэнства ў мясцовай царкве, у якім прысутнічалі цар з сям'ёй. Мы, школьнікі, стаялі на левым баку, наперадзе. Цар - на правым. Для царыцы было пастаўленае крэсла. Хорам дырыжыраваў урраднік з Упраўлення пушчы. Хор вельмі спадабаўся цару. У нейкі момант падышоў ён да рэгента і падзякаваў за спевы. Пасля абедні людзі павыходзілі з царквы і расставіліся па абодвух баках алеі, па якой цар са світай накіраваўся праз браму ў агароджы проста ў палац. Адна жанчына выйшла з натоўпу на алею і ўпала перад царом на калені, а на сваю галаву палажыла прашэнне. Цар узяў паперу і схаваў у кішэню.

На паляванне прыехаў таксама царэвіч Аляксей. Для яго рыхтавалі ў Белавежы "пацешнае войска" са школьнікаў. Хлопцам пашылі выйсковыя мундзіры і шапкі, зрабілі таксама драўляныя вінтоўкі. У муштры і спевах практыкаваў іх малады паручнік. На жаль, "пацешнае войска" не выступіла перад царэвічам, бо ён захварэў і адвезлі яго ў Пецярбург.

- Той царэвіч, - сцвярджае мой размоўца, - быў крыху хуліганаватым, распушчаным хлопцам. У палацы старажаваў тады, ва ўзнагароду за ўдзел у японскай вайне, сваяк майго бацькі, Фёдара - Назарук. Ён расказваў, што аднойчы Аляксей захацеў паплаваць з ім на лодцы па сажалках. У нейкі момант піхануў ён Назарука так, што той упаў у ваду. Чэркес з аховы, які знаходзіўся на лодцы, выратаваў Назарука, працягваючы яму руку, і аб здарэнні паведамілі цару. Імператар усхваляваўся гэтым здарэннем і на суцяшэнне падараваў Назаруку залаты гадзіннік. Іншым разам царэвіч загадаў Назаруку паднесці вельмі цяжкі камень, якога той не змог падняць.

Ян Крук у час свайго знаходжання ў Белавежы наведаў царскі палац.

- Аднойчы ў нядзелю, - успамінае, - прыехала да мяне маці. Сустрэліся мы з Назаруком, і той захацеў паказаць нам месца сваёй працы. У палац увайшлі мы пад вялікай вежай з гадзіннікам. Увайшлі мы ў царэвічаў пакой, выклеены пагашанымі паштовымі маркамі з цэлага свету. У кутку пакоя ўбачылі штучнае гняздзечка ластаўкі, на памятку таго, што было над акном, калі будаваўся палац. У адной з залаў мы заўважылі процьму паляўнічых трафеяў. Нарэшце апынуліся мы ў спальні царыцы, у якой ложкі былі заслонены шклянымі шырмамі з двайным шклом у жалезных рамках. За шклом знаходзіліся засушаныя, вельмі пахучыя кветкі і лісткі. У нейкі момант адно з дзяцей, якое было з намі, дакрануўся да шырмы. Тая ўпала і шкло разбілася на дробны друз. Усе мы паспешліва пакінулі палац. Назарук потым тлумачыўся перад кіраўніком Рэкам, што ён хацеў пачысціць акно, але пакаўзнуўся і гэтак нешчасліва ўпаў, што трапіў на шырму. Рэк яму паверыў.

**ПЁТР БАЙКО**
**фота Анджэя Кэчынскага**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W sobotę gościł z prywatną wizytą na Wybrzeżu ambasador Białorusi Włodzimierz Sieńko i Sokrat Janowicz — białoruski literat. Plan wizyty, przygotowany na prośbę gości przez osoby prywatne, jako główny punkt przewidywał spotkanie z władzami naszego miasta — wszak Białoruś ma, jak zwykło się określać, żywotne interesy gospodarcze związane z Gdynią i jej portem. Włodarze miasta przygotowali się do rozmów solidnie. Zaproszono gościa na obiad na godzinę czternastą do Sea Center Club — AMC przy alei Zjednoczenia.*

*Pan ambasador przesunął o godzinę spotkanie z ważnych powodów. (...) Przed szesnastą przystąpiono do konsumpcji w towarzystwie Sokrata Janowicza. Niedługo potem pojawili się przedstawiciele białoruskiego gościa. Przeprosili oczekujących informując, że pan ambasador jest już spóźniony, więc nie będzie w stanie zaszczycić władz miasta swoją obecnością. Cóż się stało? Otóż konsul białoruski zaproponował ambasadorowi inny, niż ustalony poprzednio, plan pobytu na Wybrzeżu.(...)*

*Koniec końców obiad spożyto w towarzystwie ambasadora (wprawdzie kultury — ale zawsze białoruskiej) Sokrata Janowicza, spędzając mile sobotnie popołudnie. Dla zainteresowanych podajemy menu: węgorz (1 à 78000 zł), bulion z makaronem (9000 zł), befsztyk z polędwicy plus frytki i surówka z pora i pomidorów (67000 zł), wino Sophia (60000 zł). W trakcie obiadu przyniesiono wódeczkę, miały być też lody, ale z nich zrezygnowano.*

*(Dziennik Bałtycki, nr 117)*

Усё можна зразумець, акрамя аднаго — як беларускі надзвычайны і паўнамоцны пасол мог адмовіцца ад такога меню?! (Wódeczkę, можамісці ў заклад, прынеслі па запатрабаванню Сакрата Яновіча; марожанага яму нельга есці.)

* * *

*У суботу 22 траўня ў Горадні быў урачыста адчынены першы на Беларусі Дом палякаў.*

*Гэта двухпавярховая камяніца, стылізаваная пад архітэктуру пачатку стагодзьдзя. Будаўніцтва фінансавалася з Польшчы. Міністэрства культуры РП разам з Саюзам палякаў Беларусі арганізоўваюць у Доме палякаў часовы цэнтр польскай культуры, дзейнасць якога будзе фінансавацца Міністэрствам культуры Беларусі.*

*Аналагічныя будынкі мяркуецца ўзвесці ў Лідзе, Баранавічах і Нясьвіжы.*

*(Свабода, н-р 5-6)*

Вось як. Не застаецца нам нічога, як павіншаваць палякаў у Горадні з утварэннем цэнтра культуры.

А пры нагодзе: вось і ў Беластоку пры вуліцы Варшаўскай стаіць двухпавярховая камяніца, стылізаваная пад архітэктуру пачатку стагоддзя. І грошы пару гадоў назад Мігістэрства культуры РП дало такія, што мог узнікнуць не часовы, але пастаянны цэнтр культуры. І што? І г...о. Палякам у Горадні беларускі ўрад даў дзялянку пад камяніцу на вельмі спрыяльных умовах. Камяніца іхняя, і ніхто іх адтуль не турне. Беларусам у Беластоку польскі ўрад не даў ні дзялянкі, ні камяніцы, затое даў грошы, якія тыя пусцілі на фатэлі, самаходы і непатрэбныя (як аказалася) камп'ютэры. І ніякага цэнтра культуры не будзе. І дзейнасць не будзе фінансавацца Міністэрствам культуры Беларусі. Так што: якімі былі, такімі засталіся. *Дуракамі.*

* * *

*Беларускі Народны Фронт нарэшце атрымаў у Менску памяшканьне пад штаб-кватэру. Гэта невялікая заля і пара пакойчыкаў на вуліцы Варвашэні, 8, побач зь міліцэйскай школай.*

*(Свабода, н-р 5-6)*

Пасля чатырох з паловай гадоў, усё-такі!

* * *

*Японскія мужчыны ператварылі сваю краіну ў магутную і багатую дзяржаву. Аднак што датычыць амурных справаў, то яны маюць адну з найгоршых рэпутацый у сьвеце. Такую выснову зрабілі канадзкія спэцыялісты. Яны спыталі 5112 жанчын розных нацыянальнасцяў, уключаючы 860 японак. Горшыя за японцаў аказаліся толькі палякі.*

*(Свабода, н-р 5-6)*

* * *

*Nie jesteśmy V kolumną* — пераконвалі міністра ўнутраных спраў Анджэя Мільчаноўскага ўкраінцы ў пратэстацыйным лісце да яго ад II З'езда ўкраінцаў, які адбыўся ў Варшаве 5—6 чэрвеня г.г.

*(Gazeta Wyborcza, nr 132)*

І так не паверыць.

* * *

*Bolszewizm tylko wzmocnił to, co już było. Nie można twierdzić na przykład, że złodziejstwo i pijaństwo zaczęło się przy bolszewikach. Rosja zawsze kradła i piła, a kiedy do władzy doszli bolszewicy, zaczęła bardziej kraść i więcej pić, ot i wszystko.*

*Wszystko już było. Taka jest natura naszego społeczeństwa i trzeba się z tym liczyć. Nasze nieszczęście polega na tym, że właściwie niczego od życia nie wymagamy.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 132,* з размовы з Булатам Акуджавай)

* * *

*Około 33 proc. głosów i zwycięstwo w sobotnio-niedzielnych wyborach parlamentarnych ma już zagwarantowane centroprawicowa partia Łotewska Droga. (...) Czteroprocentowego progu, niezbędnego do wejścia do parlamentu, nie udało się przekroczyć Koalicji Śmiechu (na czele z Partią Idiotów), obiecującej, że w wypadku dopuszczenia jej do rządów „kraść będzie mniej od innych i sprawi, ze Łotysze zaczną się śmiać".*

*(Gazeta Wyborcza, nr 132)*

## З мінулага тыдня

**У Варшаве 8 чэрвеня** было падпісана пагадненне аб польска-беларускім супрацоўніцтве ў многіх галінах гаспадаркі. Дакументы падпісалі намеснік старшыні Савета Міністраў Беларусі **Міхаіл Мяснікові**ч і віцэ-прем'ер **Генрык Гарышэўскі**. У ліку падпісаных дакументаў — дамовы аб супрацоўніцтве паміж Галоўнай статыстычнай установай (GUS) і Дзяржаўным камітэтам па статыстыцы, а таксама паміж польскім і беларускім ведамствамі будовы публічных дарог. Былі падпісаны таксама пагадненні ў галіне пошты і тэлекамунікацыі, аб супрацоўніцтве ў сферы прамысловасці, гандлю і цывільнага авіятранспарта.

**У Вроцлаве адбылася навуковыя канферэнцыя пад лозунгам „Астацца ці выехаць? Нямецкая меншасць у Польшчы"**. Д-р З. Круч прапанаваў новы погляд на гэтую тэму. „Прыглядаючыся багаццю абычаяў, мовы, культуры і рэлігіі можна сцвердзіць, што карэнныя жыхары Шлёнска, Вармії і Мазураў — вынік перамяшання славян з прышэльцамі з нямецкіх краін. На працягу стагоддзяў гэтыя супольнасці стварылі новую якасць значна розную ад суседзяў" — сказаў З. Круч. У канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі міністэрстваў Федэратыўнай Рэспублікі Германіі і аднаго з нямецкіх банкаў, які займаецца фінансаваннем г. зв. спозненых перасяленцў.

**Міжнародны фестываль хрысціянскай музыкі „Магутны Божа"** адбудзецца ў Магілёве ў першай палове ліпеня. Заявілі аб гэтым прадстаўнікі духавенства на прэс-канферэнцыі ў магілёўскім саборы св. Станіслава. У горад на Дняпры прыедуць выканаўцы хрысціянскай музыкі з Германіі, Польшчы, Італіі, Расіі і іншых краін.

**Камісія па справах адміністрацыйнага дзялення краіны** запрапанавала новы падзел тэрыторыі Польшчы на 293 паветы. У Беластоцкім ваяводстве сядзібамі паветаў будуць гарады: Беласток, Бельск-Падляшскі, Гайнаўка, Сямяцічы, Саколка і Монькі.

У Ваяводскім судзе ў Варшаве была зарэгістраваная чарговая, **209 партыя** — Польскі грамадскі саюз.

**Каля Астралэнкі быў забіты афіцэр беларускай міліцыі.** Як паведаміла агенцтва ПАП, тры ўзброеныя мужчыны стралялі ў машыну, якая прынілася ля берага ракі Нарвы, у выніку чаго адна куля папала ў галаву падпалкоўніка Мікалая І. Паліцыі ўдалося затрымаць двух забойцаў — грамадзян былога СССР.

## СЕМІНАР У БЕЛАВЕЖЫ

W dniach 22-30 czerwca br. w Ośrodku Szkoleniowo-Wypoczynkowym Bractwa Młodzieży Prawosławnej w Polsce, położonym w Białowieży, odbędzie się międzynarodowe seminarium młodzieżowe na temat: "Mniejszości narodowe, etniczne i religijne w Europie". Seminarium organizowane jest przez Bractwo Młodzieży Prawosławnej dzięki pomocy finansowej Europejskiej Fundacji Młodzieży, Fundacji Kultury oraz Ministerstwa Kultury i Sztuki.

W seminarium wezmą udział przedstawiciele Bractwa z terenu wszystkich diecezji, organizacji białoruskich, Związku Ukraińców Podlasia, Koła Teologów Prawosławnych przy Chrzescijańskiej Akademii Teologicznej w Warszawie oraz reprezentacje młodzieżowych organizacji z zagranicy: z Niemiec, Francji, Syrii, Białorusi, Rumunii, Estonii, Finlandii, Rosji i Litwy.

Głównym celem seminarium jest zapoznanie uczestników z sytuacją mniejszości narodowych, etnicznych i religijnych w poszczególnych państwach europejskich i poszukiwanie balansu między religią i narodowością.

W czasie seminarium jego uczestnicy zapoznają się z działalnością Bractwa Młodzieży Prawosławnej w Polsce., Syndesmosu - Światowego Bractwa Młodzieży Prawosławnej i poszczególnych zaproszonych organizacji. Program przewiduje również zwiedzanie Białostocczyzny, Białowieży i jej okolic oraz programy kulturalne przy ognisku.

Przewodniczący
Bractwa Młodzieży Prawosławnej
mgr Jarosław Charkiewicz

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ III З'езд Беларускага народнага фронту "Адраджэнне".
- ✓ Святыя беларускай зямлі.
- ✓ Вайсковы саюз Беларусі з Расіяй — новы цыкл А. Барскага.
- ✓ Штодзённыя праблемы нашага жыцця.

# ТЭЛЭФАКСАМ З МЕНСКА

### ПКБ — ПАРТЫЯ НОВАГА ТЫПУ, ТЫПЫ ЎСЁ ТЫЯ Ж

Падобна на тое, што беларускія камуністы ўсё-ткі добра засвоілі ўрокі нядаўняга жніівеньскага путчу 1991 года ў Маскве.

Днямі адбыўся першы з'езд Партыі камуністаў Беларусі (ПКБ), на якім „верныя ленінцы" абвясцілі сябе партыяй парламенцкага тыпу і тым самым адмовіліся ад бальшавіцкага вопыту захопу ўлады ўзброеным шляхам. Праўда, канчатковая мэта і „новых" камуністаў тая ж — пабудова камунізму на Беларусі. Істотныя змены затое адбыліся ў кіраўніцтве ПКБ. Відаць, баючыся прывіду бацькі ўсіх народаў — І. В. Сталіна (Джугашвілі) — беларускія камуністы не выбралі сабе „генсека". Кіраваць камуністычнай партыяй будуць адразу сем сакратароў цэнтральнага камітэта. Прычым, у гэтую „сямёрку" не ўвайшоў ні адзін з былых кіраўнікоў Камуністычнай партыі Беларусі.

Зрэшты, такая акалічнасць зусім не прыніжае вагі ПКБ у жыцці рэспублікі. Як паведамлялася на з'ездзе, зараз у камуністычнай партыі Беларусі налічваецца 18 тысяч 542 члены. А сярод 534 дэлегатаў з'езда — кожны трэці з'яўляецца дэпутатам Саветаў розных узроўняў.

### ДАЎГІ НАШЫ ЗАСТАНУЦЦА НАШЧАДКАМ

Усё тужэй і тужэй сціскае шыю беларусаў пятля валютных пазык, узятых урадам рэспублікі за мяжой. Сёння доўг кожнага беларуса (улічваючы немаўлят і старых) складае 75 долараў ЗША, што ў пераліку на рублі — амаль 100 тысяч рублёў. Прычым, эфекту ад выкарыстання гэтых пазык няма і хутчэй за ўсё не будзе. Заўважым, што мінімальны заробак на Беларусі зараз складае крыху больш за 6 тысяч рублёў — прыкладна 5 долараў ЗША. Так што, па ўсім відаць, адлічваць сённяшнія даўгі ўрада Кебіча давядзецца яшчэ не аднаму пакаленню беларусаў.

### „Я — ІВАН, ТЫ — АБРАМ"

Упершыню за ўсю гісторыю беларускія кінематаграфісты вярнуліся з Канскага фестывалю з узнагародай. Прэзідэнт акцыянернага таварыства „Віт" Валер Мацулевіч атрымаў два прызы на сорак шостым кінафестывалі ў Канах за мастацкі фільм „Я — Іван, ты — Абрам".

### КАНФЛІКТ ЗА КАСЦЁЛ

Канфлікт між каталіцкай парафіяй касцёла святога Роха ў Менску і кіраўніцтвам Беларускай дзяржаўнай філармоніі ўсё яшчэ не скончыўся. Днямі парафія касцёла атрымала ад Філармоніі ліст, у якім патрабуецца выплаціць 300 тысяч рублёў. Столькі грошай страціла філармонія ў выніку захопу касцёла святога Роха вернікамі, з-за чаго былі сарваны арганныя канцэрты. І хоць канфлікт быў вырашаны — дасягнута дамоўленасць аб сумесным выкарыстанні будынка касцёла вернікамі і музыкамі — кіраўніцтва філармоніі ўсё ж спадзяецца сцягнуць грошы з парафіі. А тыя — у сваю чаргу — не збіраюцца плаціць. Супрацьстаянне працягваецца.

### ПАЛІТЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

6-7 ліпеня ў Менску плануецца правесці Трэцюю Усебеларускую палітычную канферэнцыю. На гэтым форуме, які арганізуюць дэмакратычныя партыі і рухі рэспублікі, мяркуецца даць палітычную ацэнку рашэнням другой Усебеларускай палітычнай канферэнцыі 1925 года, а разам з тым, разгледзець сучасную палітычную сітуацыю на Беларусі, абмеркаваць яе будучую Кастытуцыю.

### РАДАСНАЯ НАВІНА — ВУГАЛЬ!

Чарговую радасную навіну прынеслі днямі беларускія геолагі. У нетрах Палесся выяўлены буры вугаль — каштоўнае паліва для цеплавых электрастанцый. Паводле прагнозаў геолагаў запасы бурага вугалю толькі ў адным з радовішчаў у Жыткавіцкім раёне складаюць дзесяткі мільёнаў тон. Вось толькі ці хутка ўдасца наладзіць здабычу гэтага каштоўнага выкапня?

### ДЛЯ МАФІІ НЯМА НІЧОГА СВЯТОГА

Крадзеж і вываз за межы Беларусі старажытных царкоўных абразоў набывае татальны характар. Днямі са старавераскай царквы ў вёсцы Булавішкі Браслаўскага раёна было ўкрадзена 12 абразоў. Прычым, дзевяць з іх, на думку спецыялістаў, маюць вялікую гісторыка-мастацкую каштоўнасць. А літаральна ў той жа час на Брэсцкай мытні была перахоплена цэлая партыя абразоў XVI-XIX стагоддзяў. Як выявілася ў ходзе следства, затрыманыя кантрабандысты з'яўляюцца членамі міжнароднага злачыннага сіндыката, што дзейнічае на тэрыторыі Беларусі, Расіі, Літвы, Украіны, Германіі і Італіі.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## НЯХАЙ ВАМ СПРЫЯЮЦЬ ЗМУЖЭЛЫЯ ГОДЫ!

28 мая ў нашай рэдакцыі адбылася ўрачыстая сустрэча з вядомым нашым журналістам, паэтам, празаікам, фалькларыстам, перакладчыкам і краязнаўцам Міколам Гайдуком, які адзначаў сваё 60-годдзе. Ад імя рэдакцыйнага калектыву Юбіляра павіншаваў галоўны рэдактар Яўген Мірановіч, затым былі пажаданні спадарыні Валянціны Казімерчык, якая прадстаўляла Аддзел культуры і мастацтва Ваяводскай управы ды зычанні Януша Нічыпаровіча — старшыні беластоцкага аддзялення Саюза польскіх літаратараў, а Віктар Швед зачытаў свой новы верш, прысвечаны Юбіляру. Урачыстасці прыдало бляску з'яўленне дзвюх новых кніг: зборніка духоўнай беларускай паэзіі „Храм і верш", які да друку падрыхтаваў Юбіляр і кнігі гістарычных эсэ „Паратунак", што выйшла ў менскім выдавецтве „Юнацтва". Гэту апошнюю кнігу прывёз у Беласток вядомы беларускі літаратуразнавец, прафесар Вячаслаў Чамярыцкі. У перададзеным Аўтару экземпляры знаходзіўся вось такі прывітальны адрас ад выдавецкага калектыву:

*Праходзіце Шляхам Гадоў белавежных*
*па межах нязнаных, па нівах сушеных —*
*наўпобач Міндоўга, Ягайлы, Давыда...*
*О, колькі ўжо Праўды і Веры забыта!*
*Не шчасціла продкам планіда-фартуна.*
*У беларускасці наш Па-ра-ту-нак!*
*І вы як вяр, паглядзіце наўкола:*
*Што сеялі — рунню шугае, МІКОЛА, —*
*Наш сябар адданы, зямляк працавіты.*
*Мы ваш жа набытак, што потам паліты,*
*Вяртаем з падзякай, віншуем з нагоды!*
*Няхай Вам спрыяюць змужэлыя годы!*
*На новы мацунак, на новы гадунак —*
*Юнацкі ўрачаем мы Вам „Паратунак".*

Прафесар В. Чамярыцкі зачытаў таксама віншавальны ліст ад Саюза пісьменнікаў Беларусі, у якім беларускія літаратары так ацанілі творчыя здабыткі Юбіляра:

*„Мы добра ведаем і высока цэнім Вашу многагранную творчую дзейнасць. Першы зборнік казак і легенд „Аб чым шуміць Белавежская пушча", запісаных і апрацаваных Вамі — гэта сапраўдныя сучасныя аранжыроўкі з народнага. У зборніку апавяданняў „Трызна" Вы ўдала загаварылі як пісьменнік-гісторык. Вашая новая кніга эсэ „Паратунак" — важкі ўклад у распрацоўку гісторыі нашай Бацькаўшчыны, яна праўдзіва асвятляе многія трагічныя і гераічныя яе старонкі. Паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, фальклярыст, краязнавец — такі шырокі абсяг Вашай творчасці".*

У Міколы Гайдука многа творчых планаў. Усе ўдзельнікі ўрачыстасці жадалі Юбіляру моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і новых літаратурных і навуковых здзяйсненняў.

**В. ЛУБА**
**Фота М. Лукшы**



*Злева: Лідзія Гайдук, Мікола Гайдук (падпісвае „Паратунак") і Яніна Чэрнякевіч у час рэдакцыйнай сустрэчы.*

## ПАДАЮ РУКУ НА ЗГОДУ

Паважаны спадар Грыша Мароз! Прачытаўшы Вашу адгалоску „Слова абвінавачанаму" ў 22-м н-ры „Нівы" захапляюся Вашай хрысціянскай цірпласцю і праніклівасцю. І думаю, што ваша месца не ў Старым Беразове, а недзе ў сталіцы: міністэрстве ці мітраполіі. Пішаце, што раней лічылі мяне болей сур'ёзным чалавекам і адданым сябрам. Дык навошта напісалі пра мяне няпраўду ў 6-м н-ры „Нівы": „што сталася, што Мікалай Панфілюк пачаў у „Ніву" пісаць? Ён жа так на яе пляваў і праклінаў, проста нагамі яе таптаў?" Чаму не ўспамінаеце пра гэта ў сваёй адгалосцы, толькі сваю філасофію разводзіце? І ведайце, што я і раней лічыў Вас чалавекам сур'ёзным, адданым сябрам і шчырым беларусам і гэта маё перакананне даказаў, пасылаючы Вам мой ліст у канцы 1988 года. Хто другі на маім месцы даверыў бы так Вам як брату? І зрабіў я вялікую памылку, глупства, пішучы такі ліст; тады мае эмоцыі ўзялі верх над развагай, і я ўсіх сардэчна перапрашаю за гэты ліст: і тадышнюю рэдакцыю „Нівы" і карэспандэнтаў — усіх тых, хто чуў яго змест, зачытаны Грышай Марозам. Але „Нівы" пасля гэтага ліста я не адрокся: выпісваў яе падпісчыкам, пісаў да яе і пішу па сённяшні дзень. Людзей дасканалых няма і я — першы грэшнік. Не гневайцеся на мой закід, бо Вы першы зачапілі мяне. Помніце мой асабісты ліст у справе аднаго чалавека, дзе я Вас крыху „аблаяў" (мо і няслушна), але і Вы ў даўгу не асталіся. Пасля сустрэчы ў Рудцы, дзе высветлілі справу і я Вас перапрасіў, расталіся мы як найлепшыя сябры. І цяпер, пасля стольких гадоў, пішаце, што Панфілюк плюе на „Ніву" і т.п. Гэта помста, якая, як мне здаецца, не павінна мець месца ў такога веруючага чалавека, як Вы. Маеце яшчэ жаль да маіх сяброў. Уладзіміра Хіліманюка з Тафілаўцаў называеце разумнікам; Вы ўгадалі — ён вельмі разумны чалавек: бо калі б ім не быў, то не выбралі б яго тры разы запар солтысам. І шкада, што Вы яго не ведаеце; ён Вас нейкім спосабам распазнаў і таму напісаў сваю праўду. Другі мой абаронца — Сцяпан Мруг з Тапаркоў закончыў духоўную семінарыю ў Варшаве і адзін год духоўнай акадэміі і ў вёсцы карыстаецца аўтарытэтам і пашанай. Калі гневаецеся і маеце жаль да нас трох, то ў першую чаргу гневайцеся на сябе, бо Вы першы піва адчынілі — то і выпівайце яго да дна. Хачу яшчэ Вам прыпомніць, што сціхіра Пасхальная Яна Дамаскіна не дасць Вам жыцця вечнага, бо такога тэксту ў Бібліі няма. Для мяне аўтарытэтам і фундаментам з'яўляецца сам Ісус Хрыстос і Святое Пісанне — Біблія.

Я да Вас, паважаны сп. Г. Мароз, ніякай злосці не маю; трэба забыць мінулае і не вяртацца да яго. У Вас таксама эмоцыі ўзялі верх, калі з дадзенай Вам мною ацэнкі зразумелі, што лічу Вас „шкоднікам, крывадушнікам, здраднікам". У ніякім выпадку гэта не праўда — лічу Вас надалей сябрам, а нашым абавязкам — не сварыцца, толькі болей пісаць у „Ніву". Падаю Вам руку на згоду. Жадаю Вам і Вашай сям'і ўсяго найлепшага.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

<u>З майго панадворка</u>

## УСІМ ДАЮЦЬ

У пятніцу 7 мая прыехала ў нашую вёску працаўніца гміннай управы і раздавала сялянам грошы — па 40 тысяч ад гектара — як кампенсацыю за павышэнне цэнаў паліва. Нічога не было б дзіўнага, каб плацілі толькі тым, што маюць трактары, але грошы атрымалі і тыя, якія іх не маюць.

Яшчэ большым скандалам лічу тое, што гміна плаціць тым гаспадарам-пенсіянерам, якія перапісалі зямлю на сыноў — жыхароў Беластока і якія далей працуюць на сваёй гаспадарцы, так як і раней.

А такім як я, што маюць толькі 1 мільён 300 тысяч злотых пенсіі ніякай дапамогі з гэтай самай гміны даць не хочуць. Адзін мае 20 гектараў, 10 кароў і пенсію, а другі чакае пісьманосца, бо ў канцы месяца нават на хлеб не хапае.

Ну і справядлівасць!

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

**P.S.** А ці не сорамна браць гаспадарам грошы на „паліва" для трактароў, якіх яны не маюць? Пэўна не, бо калі мой сусед узяў у 80-цігадовых старэчаў 2 мільёны злотых за тое, што пасадзіў ім паўгектара бульбы, то відаць такі час настаў, што ўсякая маральнасць ужо не лічыцца.

## ДАРОГІ

Трапіў мне ў рукі зборнік вершаў нашага знакамітага паэта Віктара Шведа, у якім знайшоў я верш "Дарогі":

*Дарогі, дарогі і тыя*
*Змяняюць свой від на вачах,*
*А ўздоўж іх слупы вартавыя*
*Трымаюць драты на плячах.*

Гэты лаканічны верш заўсёды актуальны. Пры камуністычнай уладзе дарогі хутка мянялі свой від: на месцы непраезных балоцістых або пясчаных паяўляліся добрыя гравейныя, а побач іх выраcталі слупы, па якіх электраток даходзіў да сялянскіх хатаў.

Цяпер тыя ж слупы надалей трымаюць драты, па якіх плыве электрычнасць пад сялянскія стрэхі, ужо не саламяныя, а шыферныя або бляшаныя. Змянілі свой выгляд і дарогі: равы і абочыны дарог пазарасталі карчамі так, што ў некаторых месцах нельга разміну́цца двум самаходам. Найгоршая бяда на паваротах: яны зусім заслоненыя, нябачна, ці не едзе нешта насустрач.

Няма каму даглядаць гравейкі, якія належаць да ліку г.зв. ваяводскіх дарог: гмінныя ўправы не маюць грошай на рамонт, а нашыя бедныя ваяводы па гэтых дарогах не ездзяць, бо калі ім нешта ў нас спатрэбіцца - клічуць да сябе войтаў або бургамістраў. Трагедыі на такіх дарогах здараюцца не з ваяводамі, а са звычайнімі людзьмі.

Вось як нашыя дарогі мяняюць свой выгляд!

**МІКОЛА ЛУК'ЯНЮК**

## Да ўвагі моладзі!

Задзіночанне беларускіх студэнтаў інфармуе, што ў Менску 26 чэрвеня 1993 г. а гадз. 18 у Тэатры імя Янкі Купалы адбудзецца вечарына ў гонар 50-годдзя Саюза беларускай моладзі. Арганізатары запрашаюць на ўрачыстасць моладзь з Беласточчыны, асабліва сяброў БАСу і ЗБМу. Начлег гарантуецца. Кантактны тэлефон/факс у Менску: (0172) 31-73-70.

## АДЭЛЯ

— Прыгожая ты дзяўчына, — аднаго разу сказала Адэлі варожка, — але вось бацькоў сваіх не слухаешся. Тваё жыццё было б зусім іншае, каб ты звважала на іх парады. Яны хочуць, каб ты пабралася шлюбам з кавалерам, а ты пойдзеш за разваднога.

— Што яны там ведаюць!.. — абурылася Адэля.

Да Адэлі пачаў заляцацца жанаты. Спярша дзяўчына лаяла яго, але неўзабаве ён ей прыглянуўся. Марцін кінуў жонку і гадована сына. Натуральна, Адэліны бацькі былі супраць шлюбу, але ў хуткім часе адбылося вяселле.

Напачатку ўсё было добра, але неўзабаве Марцін пачаў піць гарэлку і хадзіць да дзевак. Адэля, як магла, сама ўтрымлівала сям'ю. Бацькі дапамагалі ёй, а свекры лаялі сына, і аднаго разу бацька спрабаваў выхаваць яго бізуном. Але, як кажуць, „разумнай галаве хопіць два слова, а на шалёнай лес пабі, і не зменіцца".

Праз некаторы час Адэля нарадзіла дачку, потым сына. Яна сама гадавала дзетак, а муж прыходзіў дахаты толькі пад'есці, пераапрануцца ды палаяцца.

Сяброўкі не раз раілі Адэлі кінуць такога нядзтнага ні да чаго мужа, але ж Адэля, нягледзячы ні на што, кахала Марціна па-ранейшаму. Ёй здавалася, што Марцін без яе сканае.

Праз гарэлку здарыўся ў Марціна смяротэльны інфаркт...

Адэля была няўцешная, нават счарнела з гора. Калі засыпалі магілу, кінулася яна на зямлю, ды так і засталася ляжаць, галосячы...

— Чаго ты так галосіш? — спыталася Адэліна маці. — Цяпер хоць пажывеш спакойна...

— Ты, мама, анічога не разумееш, — адказала Адэля.

**АЎРОРА**

## "ЗЯЛЁНЫЯ ЛЁГКІЯ ПОЛЬШЧЫ"

У 1983 годзе дзеячы беластоцкага ПТТК распачалі новую дзейнасць - пошукі комплекснага падыходу да ахоўы прыроды ў паўночна-усходніх раёнах Польшчы, якія б не толькі палепшылі агульны стан лясоў, палёў і рэк, але і адбіліся б на ўмовах жыцця насельніцтва, што жыве ў тых мясцовасцях. Так нарадзілася ініцыятыва, што атрымала назоў "Зялёныя лёгкія Польшчы", якая, неўзабаве, набыла выгляд афіцыйнага пагаднення паміж Беластоцкім, Ольштынскім і Сувальскім ваяводствамі. Нагадаю, што тэрыторыя гэтых ваяводстваў складае каля 15% ад агульнай плошчы Рэчыпаспалітай, і пражывае на ёй каля 7% жыхароў Польшчы.

У распрацоўцы гэтай экалагічнай праграмы ўзяў чынны ўдзел беластоцкі навуковец Кшыштаф Вольфрам.

Разумеючы ўсю важнасць гэтай прыродаахоўнай ініцыятывы, польскі ўрад выдаткаваў на яе 14 млрд. злотых.

Будзем спадзявацца, што гэтая праграма не стане чарговай прыгожай утопіяй, як ужо здаралася неаднойчы, і што стан прыроды нашага краю сапраўды палепшыцца ў лепшы бок.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**
**г. Ольштын**

## ПЯДЗЕНІК АТАКУЕ!

Белавежскую пушчу, так як і год раней, атакуюць вусені пядзеніка зімовага (від начнога матыля). Яны кормяцца лісцем дрэў і кустоў. Здаецца, што найбольшую страту панясе граб. На некаторых дрэвах гэтага віду замест лісткоў астаюцца толькі сетачкі. Дрэвы, відома, бароняцца, выпускаючы лісткі з г. зв. „спячых" пупышак. Але ўсё ж яны аслабляюцца, а шмат іх засохне. Барацьба з гэтым шкоднікам у пушчы, пакуль што, не відзецца.

**П. БАЙКО**

# ПАЛІТЫЧНАЯ ЗАЯВА МАЛАЗЯМЕЛЬНАГА ЯЎГЕНА ВОЙНЫ

*У нашу рэдакцыю дайшоў ліст-заява грамадзяніна Беларусі, у якім ён апісвае сваё змаганне з бюракратамі за права ўласнасці на кавалак зямлі. Гэта праўдападобна адно з найбольш складаных пытанняў, перад якім стаяць будзе маладая беларуская дзяржава ў будучыні. З аднаго боку наглядаецца ахвота і энтузіязм да працы на сваім участку некаторых калгаснікаў, з другога — старыя структуры, якія рашуча выступаюць супраць якім-небудзь зменам. Паводле апазіцыі ў 65 % да коштаў прадукцыі калгасаў даплачвае дзяржаўны бюджэт.*

Рэд.

* * *

Я жыву ў таталітарнай дзяржаве — Рэспубліцы Беларусь. Вярхоўны Савет, якім кіруе камуністычная наменклатурная большасць, прымае такія законы, якія не працуюць. Напрыклад, Закон аб зямлі ці Закон „аб непраўядзенні рэферэндуму". У Беларусі адсутнічае дэмакратычная канстытуцыя. Няма механізма абароны правоў чалавека. Правы толькі дэкларуюцца. Я гэта асабіста зведаў на сабе.

Разгледзім права ўласнасці на зямлю. У цывілізаваных праваых дзяржавах гэтае права рэалізуецца праз прыватную ўласнасць і рынак зямлі, уласныя грошы ці доўгатэрміновы льготны крэдыт у банку. У таталітарнай дзяржаве РБ рынак зямлі адсутнічае, як адсутнічае і права прыватнай уласнасці на зямлю.

Я, напрыклад, каб атрымаць 0,3 га зямлі звяртаўся двойчы ў мясцовы сельсавет, двойчы ў райвыканкам, у раённы суд, у раённую газету толькі пісьмова, а каб захаваць гэтую зямлю неаднаразова абабіваў парогі чыноўнікаў-бюракратаў. Спачатку стала каля 0,6 га зямлі. Я ўзяў курс на паступовае развіццё сялянскага фермерскай гаспадаркі: завёў дзве каровы (малака давалі больш за калгасныя), дзве цёлкі, дзве свінаматкі, чатыры авечкаматкі. Але часць зямлі вясной і яшчэ часць восенню 1992 года забралі, а ў замен адказалі адмерашь. Прыйшлося кароў і цёлку прадаць, свінаматак адправіць пад нож.

Заўважу, што мясцовы калгас ураджай убірае няякасна. Аб гэтым у раёнцы пісаў А. Пятрыка, няякаснасць уборкі паднімалася на рэспубліканскім тэлебачанні. На калгасным полі атрымліваюць праступныя захворванні 11-цігадовыя падлеткі, прамокшыя пад дажджом і ездзячыя на адкрытых машынах.

Я звяртаюся да парламентарыяў цывілізаваных праваых дзяржаў аказваць гуманітарную дапамогу толькі праз апазіцыйныя арганізацыі, прадстаўляць крэдыты толькі малым незалежным прадпрыемствам, фермерам, прыватным асобам.

Я звяртаюся да шэраговых камуністаў. Помніце! Бальшавізм — ад сатаны. Пакайцеся перад людзьмі, суседзямі, дзецьмі, унукамі. Помніце! Ваш грэх, згодна хрысціянскай маралі можа перанесціся да пятага калена.

Адзінокі 70-цігадовы пенсіянер можа мець 0,5 га зямлі. У мяне сям'я з чатырох чалавек. Мая жонка вымушана месяцамі працаваць то на паўстаўкі, то быць у адпачынку за свой кошт. Чаму я на чалавека не магу ўзяць удвая больш зямлі, чым іншыя?

Людзі добрыя! Выступім у абарону прыватнай уласнасці на зямлю! Выразім недавер наменклатурнай камуністычнай большасці ў парламенце Рэспублікі Беларусь!

Будзьце больш актыўнымі! Мару папасці ў кнігу рэкордаў Гінеса ў раздзел „Чалавек — таталітарныя камуністычныя рэжымы".

ЗА НАШУЮ І ВАШУЮ ВОЛЮ!

Пісьма салідарнасці адпраўляйце па адрасу:

231429 Рэспубліка Беларусь, Гродзенская вобл., Навагрудскі р-н, в. Ст. Нягневічы, Яўгену Война.

ЯЎГЕН ВОЙНА




*- Для фермераў райвыканкам выдзеліў вось тут зямлю.*

Мал. В. Ключніка („Вожык")

# АРХІВЫ КДБ АДКРЫТЫ?!

*У 22 нумары „Нівы" ад 30 мая г. г. надрукавалі мы ліст накіраваны старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь з просьбай дапамагчы нашым гісторыкам пакарыстацца архівамі КДБ пры даследаванні „раскулачвання" сялян на Беласточчыне ў 1939-1941 гадах і рэпатрыяцыі беластоцкіх беларусаў у БССР у 1944-1946 г.г. Сёння друкуем адказ старшыні КДБ у гэтай справе.*

**Шаноўныя спадары Яўген Міранович, Ян Максімюк і Юрка Каліна!**

Ваш ліст ад 12 траўня 1993 года, накіраваны ў Камітэт Дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, намі ўважліва разгледжан.

Паведамляем Вам, што пытаннямі раскулачвання адпаведнай катэгорыі грамадзян Заходняй Беларусі пасля 17 верасня 1939 года займаліся мясцовыя органы ўлады. Што датычыцца да рэпатрыяцыі грамадзян беларускай нацыянальнасці ў 1944-1946 г. г., то яна праводзілася на добраахвотных умовах у адпаведнасці з міжурадавым пагадненнем паміж былым Савецкім Саюзам і Польшчай.

Паколькі архіўных матэрыялаў па гэтых пытаннях у КДБ Рэспублікі Беларусь няма, то дапамагчы Вам у Вашых доследах не ўяўляецца магчымым.

Адначасова раілі б Вам звярнуцца ў Камітэт па архівах і справаводству пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, у якім знаходзяцца цікавячыя Вас матэрыялы. Разам з тым паведамляем Вас, што гатовы азнаёміць Вас з архіўнымі матэрыяламі, якія датычацца лёсу канкрэтных асоб.

Жадаю Вам поспехаў ў працы, да сустрэчы.

**З павагай,**
**Старшыня Камітэта**

**Э. І. ШЫРКОЎСКІ**

# РЭПЛІКА

**Паважаны сп. М. Панфілюк!**

Я думаў, што мы ўжо закончылі нашыя непрыемныя спрэчкі, а тут бачу ў „Ніве" н-р 21 „Ліст невучонага да вучонага", у якім абвінавачваеце мяне, што я карыстаюся **выключна** польскай Біблiяй. І зноў пішаце няпраўду. Я ніколі не ўспамінаў аб гэтым. У н-р 17 „Нівы" я пісаў толькі, што польскі пераклад Евангелля з арыгінальнай старагрэчаскай мовы быў зроблены пазней чым рускі (бо ў канцы 1970-х і на пачатку 1980-х гадоў) і ён больш дакладны, бо ўлічваў многія крытычныя заўвагі, якія мелі вучоныя да старых перакладаў. Евангелле Вуйка, аб якім Вы ўспамінаеце — пераклад са старалацінскай мовы (Вульгаты) і з'явілася ў 1593 г. пад рэдакцыяй езуітаў. Рускі пераклад быў зроблены ў XIX стагоддзі і не ведаю з якой мовы. Я карыстаюся рознымі перакладамі. Беларускага перакладу не маю і не ведаю, хто яго зрабіў, бо слова „чурбан" у беларускай мове няма. Па-беларуску гучыць яно „цурбан". А калі б нават узяць рускі пераклад, ці як Вы хочаце — беларускі, то ён Вас не ўратуе ад пекла, бо там напісана, што хто скажа на другога чалавека „шалёны" (ці вар'ят), то падлягае вогненнаму пеклу. А Вам, веруючаму хрысціяніну, як Вы самі хваліцеся, нельга гэтага рабіць. Але Вы так паступаеце, бо ў мяне ёсць Ваш верш да В. Петручука, дзе Вы яго так называеце.(...)

І нарэшце пытаю: чаму Вы заўсёды называеце мяне вучоным? Ці я Вам калі пахваліўся, што я вучоны, а Вы — „невучоны"? Я ніколі не быў вучоным. Мая прафесія — інжынер, а не вучоны. Ці Вы хочаце давесці, што вучоны — гэта дурань, а невучоны — разумнік? Прабуйце гэтак далей! Толькі я ўжо больш не буду адказваць на Вашыя паклёпы.

**Д. Шатыловіч**

**Ад рэдакцыі:** Паважаны спадар Д. Шатыловіч! Не можам надрукаваць верша Мікалая Панфілюка, які Вы змясцілі ў сваім артыкуле (у месцы шматкроп'я) па двух прычынах: па-першае — не маем згоды аўтара на публікацыю, і па-другое — выглядае, што гэты верш ёсць фрагментам нейкай прыватнай карэспандэнцыі, якую тым больш не выпадае нам друкаваць.

# НЕ ПАВЕРЫШ, ПАКУЛЬ НЕ ПАБАЧЫШ

Шмат чаго прыйшлося мне чуць пра кніжку Анджэя Салад'яка „Pamiątki i zabytki kultury ukraińskiej w Polsce" */, але мець гэты „навуковы" твор у сваіх руках — гэта тэст псіхічнай ураўнаважанасці чытача. Выдаў гэтую кніжку нейкі пан Пшэмыслаў Бурхард, які ў „Слове ад выдавецтва" піша: „Każda mniejszość z natury jest drażliwa, nawet drobne zatargi mogą zapoczątkować spiralę niechęci i nienawiści. Zamyśliwszy przed kilku laty założyć prywatne wydawnictwo, przyjąłem pewien program. Postanowiłem wydawać tylko takie książki, jakie sam bym kupił". Цяжка паверыць у гэта, што пан Бурхард выдаў гэту кніжку таму, што здалася яна яму вельмі цікавай. А можа таму, што фонд культуры даў яму магчымасць зарабіць пару мільёнаў злотых? Ужо на пачатку аўтар — магістр Анджэй Салад'як — паясняе, паводле якога крытэрыя амаль усе цэрквы ў Польшчы палічыў ён украінскімі: „Ostatecznie do katalogu zakwalifikowałem tylko te obiekty, z których w okresie międzywojennym korzystali internowani i później integrowani żołnierze armii UNR (petlurowcy). Obecnie z dawnych carskich cerkwi korzystają rozproszeni po Polsce prawosławni Ukraińcy". Гэта абазначае, што калі ўкраінец увайшоў у царкву, святыня стасцца ўкраінскай. Сам ведаю пару ўкраінцаў, якія прыехалі ў Беласток з Ольштына, Бартошыц, Кашаліна. Усе яны ходзяць маліцца ў Сабор святога Мікалая ў Беластоку і таму, відаць, малады навуковец гэтую царкву палічыў таксама ўкраінскай (стар. 427). А калі, напрыклад, у царкве св. Ільі, што на Дайлідах, настаяцелем ёсць святар родам з Холмшчыны, дык чаму ж яна не мае быць украінскай?

Праўда, цяжка дадумацца, чаму ўсе цэрквы, якія будуюца ў Беластоку, загадзя палічаны ўкраінскімі, хаця не маліліся яшчэ ў іх ані пятлюраўцы, ані, пакуль што, іх суродзічы з Холмшчыны. Але гэта, відаць, найменш важнае, — магчыма яшчэ нехта з іх прыедзе. Без ніякага сумнення ўкраінскімі з'яўляюцца ўсе цэрквы Бельска, а таксама цэрквы ў Заблудаве, Чыжах, Новым Беразове, Кляшчэлях, Мельніку, Ляўкове, Орлі, Супраслі, бо ўсе яны уніяцкія!!! Няма, зрэшты, ні могільніка, ні каплічкі ад Сямяціч да Супраслі, якія не былі б украінскімі.

У Беластоку ў ратушы — паводле А. Салад'яка — змяшчаецца музей, у якім усе экспанаты сведчаць пра ўкраінскі характар гэтай зямлі. А калі хтось не верыць... то няхай лепей прыглядзіцца гэтаму чэрапу з VII стагоддзя, і параўнае яго з антрапалагічнай сістэмай сучасных хаця б бельскіх украінцаў. Трэба ўжо быць тупым беларускім нацыяналістам, каб не заўважыць падабенства!

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

*/ Andrzej Saładiak, Pamiątki i zabytki kultury ukraińskiej w Polsce, Warszawa 1993.

# ЦІ НАСТУПІЦЬ ПАКАЯННЕ?

Прачытаўшы ў 21 н-ры "Нівы" артыкул Д. Шатыловіча "Нарыў", хачу падзяліцца з чытачамі сваімі разважаннямі, якія з'явіліся пасля прачытання.

Пра звярыны твар нямецкага фашызму напісана многа, і тое, што піша аўтар - безумоўна, праўда, і ніякім сумненням не падлягае. Але мяне цікавіць не змест, не пераказ тых падзей, а высновa: хто ва ўсім гэтым вінаваты? Хіба адно Гітлер і ягоная хеўра?

На мой асабісты погляд, пэўная віна кладзецца і на нямецкі народ, які дазволіў сабе ашукаць розным прайдзісветам. Хіба адно эсэсаўцы ды гестапаўцы ладзілі канцлагеры, палілі вёскі разам з жыхарамі і знішчалі старых, жанчын ды дзяцей? Не, гэта рабілі і "простыя" немцы - звычайныя хлопцы з Берліна, Мюнхена ды Франкфурта, звычайныя баўэры з нямецкіх вёсак. Ужо пасля бясслаўнай канчыны "Трэцяга Рэйха" нямецкі народ перажыў сапраўдны шок з прычыны пакаяння за тыя злачынствы.

Але тут узнікаюць пэўныя гістарычныя паралелі. Хіба адно Сталін, Берыя, Кагановіч ды іншыя бальшавікі вінаватыя ў кампаніі "раскулачвання", выкрыцці "ворагаў народа" ды стварэнні сеткі шматлікіх "зон"? Давайце ўспомнім, а чыімі рукамі ссылалі "кулакоў", каго вымушалі пісаць даносы ў НКУС, хто, нарэшце, ахоўваў лагеры на Калыме ды ў Казахстане? Ці не тыя ж "простыя" рускія з Масквы, Ленінграда, Тамбова ды Разані, хіба не звычайныя калгаснікі з-пад Растова ды Курска?

Бальшавізм і фашызм сёння выкідаюцца на сметнік гісторыі. Але ці перажыве Расія такое ж пакаянне, як і Германія?

**М. ПАНФІЛЮК**

# РЭЙД "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

Варшаўскае аддзяленне БАСу сардэчна запрашае ўсіх ахвотных на чарговы студэнцкі рэйд "Бацькаўшчына".

Збіраемся 6 ліпеня 1993 г. у Дубічах-Царкоўных на "Купаллі".

Маршрут вандроўкі: Дубічы-Царкоўныя (7.07.) - Гайнаўка (8.07.) - Нараўка (9.07.) - Семяноўка (10.07.) - Бабровікі (11.07.).

**АРГАНІЗАТАРЫ**

## НАГОРНАЯ ПРОПАВЕДЗЬ

**У другую нядзелю пасля Пяцідзесятніцы** чытаецца урывак з чацвёртага раздзела Евангелля паводле Мацвея. У ім цытуецца гэтак званую Нагорную пропаведзь Хрыстовую. Калі за горадам, здалёк ад вулічнай мітусні ўпершыню прагучэлі ейныя словы, слухачы ўспрынялі іх як бальзам на свае сэрцы. Пагарджаныя, бедныя і пазбаўленыя перспектываў людзі пачулі словы суцяшэння і надзеі.

„Шчаслівыя ўбогія духам, бо іх ёсць Царства Нябеснае" — звярнуўся Хрыстос да натоўпу заслуханых людзей. Шчаслівыя тыя, што ўсведамляюць убоства свайго духа і адчуваюць патрэбу выкуплення. Да такіх накіроўваецца Евангелле. Яно не будзе аб'яўлена ганарыстым людзям, што, як фарысеі, лічаць сябе багатымі і не маюць ніякіх патрэбаў.

„Шчаслівыя тыя, што плачуць, бо яны ўцешацца" — працягвае Ісус. Людзі з найніжэйшых слаёў грамадства пачулі пра магчымасць змены лёсу. Паводле свецкіх паняццяў плач — азнака слабасці. У сапраўднасці ён дазваляе зразумець прычыны крыўды, усведаміць сваю віну і віну іншых.

„Шчаслівыя ціхія, бо яны ўнаследуюць зямлю", — гаварыў Хрыстос да заслуханых людзей. Цяжкасці, якія мы напатыкаем, могуць быць змякчаны ціхасцю, якая характарызуе Хрыста. Калі будзе ў нас Ягоная пакора, узнясемся па-над зняважамі, абразамі і дакучаннем. Свет можа на ціхіх глядзець з пагардай. Найбольш гавораць тыя, што не маюць што сказаць. Звон таксама гучыць галасна, бо ён пусты. Тыя, што выяўляюць ціхасць і пакору, атрымаюць Божую дапамогу — гаварыў Хрыстос.

„Шчаслівыя галодныя і прагавітыя праўды, бо яны насыцяцца", — прамаўляў Ісус. Рабіны лічылі сваю справядлівасць пропускам у неба, але Хрыстос прызнаў яе недастатковай і бязвартаснай. Абраднасць і тэарэтычнае веданне праўды не тоесны са справядлівасцю. Найбольш змрочныя раздзелы гісторыі запоўненыя злачынствамі крывадушных рэлігіянтаў. Калі нехта ўвесь час гаворыць пра дабро Бацькаўшчыны або Царквы, можна быць упэўненым, што ён дбае перш за ўсё пра ўласнае дабро. Руплівае ахоўванне тэалагічнай праўды часта заступае дбаласць аб праўду і справядлівасць у сваім жыцці.

„Шчаслівыя міласцівыя, бо яны будуць памілаваны" — гучэлі чарговыя словы. Пакаранне не прадухіляе зла. Прабачэнне і міласэрнасць з'яўляецца адказам на Божую вялікадушнасць — вучыў Хрыстос у Нагорнай пропаведзі.

„Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць" — працягваў Ён. Людзі імкнуцца да багацця, да ўлады і пашаны, але адзінай вартай намаганняў мэтай з'яўляецца чысціня сэрца.

„Шчаслівыя міратворцы, бо яны сынамі Божымі будуць названыя" — гаварылася далей. Найбольш гавораць пра мір тыя, у каго агрэсіўныя намеры. Уміратварэнне свету не прыходзіць ад сарганізавання „мірнай канферэнцыі" ў Беластоцкай філармоніі. Яго трэба пачаць ад міру са сваім сумленнем, потым з людзьмі і з Богам. Людзі наогул няздольныя ўсталяваць мір. У сапраўднасці, ён сам у сабе не лічыцца вартасным і таму шчыра не імкнуцца да яго. Пераважна ў вышэйшай цане — блізарукая карысць.

„Шчаслівыя, каго гоняць за праўду... шчаслівыя вы, калі будуць здзекавацца над вамі, праследаваць вас і ўсяляк несправядліва абгаворваць вас з-за Мяне" — гаварыў Хрыстос. Царкву праследуюць тыя, якім перашкаджае ейны маральны аўтарытэт, якія хочуць жыць без маральнай вуздэчкі і без пазітыўнага прыкладу. Зло ненавідзіць дабро, а распусту раздражняе святасць. „Лёс царквы — гэта безупыннае пакутніцтва і здзекі, але яны недарэмныя. Яна тады квітнее, — гаварыў св. Гілары, — калі яе праследуюць, развіваецца, калі ёю пагарджаюць, стаіць упэўнена, калі здаецца, што ўжо адолена.".

Нагорная пропаведзь — гэта сінтэз Евангелля. Кожны ж сказ мог бы быць тэмай аддзельнага развазання. Галоўнае, што яны здольныя зноў прамовіць да нас.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

## АБ АПОСТАЛЬСКІМ САБОРЫ Ў ІЕРУСАЛІМЕ Ў 51 г.

Хачу зрабіць дапаўненне да артыкула „Саборы" („Ніва" н-р 19). Праўда, што галоўнай прычынай склікання сабора былі сваркі паміж хрысціянамі яўрэйскага паходжання і хрысціянамі – былымі язычнікамі на тэму іх падпарадкавання закону Майсея. Першыя вучні Хрыста, як і хрысціяне-яўрэі, прывязаныя да Закону, не маглі згадзіцца з ап. Паўлам, які ўважаў рытуальныя нормы іудаізму састарэлымі, ад якіх трэба адмовіцца, бо адштурхоўваюць язычнікаў ад хрысціянства. Яны дамагаліся, каб кожны язычнік перад хрышчэннем абавязкова паддаўся абразанню, а пасля хрышчэння падпарадкаваўся законам Майсея. І нават ап. Якуб, зводны брат Хрыста па Язэпу, стараўся перакана́ць ап. Паўла, каб ён не выступаў супроць Закону. Вагаўся таксама ап. Пётр. На саборы ў Іерусаліме дайшло да кампрамісу. Усе згадзіліся, што новаспечаным хрысціянам, былым язычнікам, не трэба перад хрышчэннем падвяргацца абразанню, але пасля хрышчэння яны павінны падпарадкавацца прывілам Закону, якія датычаць ежы. Новаспечаным хрысціянам забаранялася есці мяса, з якога не выцекла кроў, мяса з задушаных жывёлін і прынесенага з язычаскіх храмаў. Нельга ім было таксама піць звярыную кроў. Апрача таго трэба было падпарадкоўвацца маральным законам Майсея ў сямейным жыцці. Забараняліся сексуальныя адносіны з распусніцамі з язычаскіх храмаў, нельга было чыніць другому таго, чаго не хочаш, каб табе чынілі. (Дз. Ап, 15-20). Аднак ап. Павел і пасля Сабора не вымагаў ад новых хрысціян, калі яны былі галодныя, не есці мяса з задушаных звяроў і жывёлін, а нават з язычаскіх храмаў. Але староннікаў іуда-хрысціянскай Царквы, якія аднача́сова прапаведвалі веру ў Хрыста і падпарадкоўваліся закону Майсея, было многа сярод яўрэяў. Яны выступалі супроць ап. Паўла. Царква гэтая пражыла яшчэ некалькі стагоддзяў пасля разбурэння Іерусаліма ў 73 г.

А цяпер некалькі слоў аб ап. Якубе, якога называлі Справядлівым. Гэта быў зводны брат Хрыста. У пісьме да Галатаў (1-19) ап. Павел называе яго братам Панскім (Госпадним). Ён стаў кіраўніком іуда-хрысціянскай Царквы пасля распяцця Ісуса, калі аб'явіўся яму Хрыстос, і быў яе епіскапам 18 год да 62 г., калі быў забіты па загаду першасвяшчэнніка Анноша.

Ап. Якуб быў вельмі папулярны ў Іерусаліме. Успамінае аб ім нават яўрэйскі гісторык Язэп Флавій, які вострa асудзіў гвалт Анноша. А Я. Флавій выступаў супраць хрысціян. Ап. Якуб не піў віна і іншых моцных трункаў, ніколі не еў мяса, ніколі не стрыг сабе валасоў. Яго калені былі цвёрдыя, як у вярблюда, бо цэлымі днямі маліўся ў храме на каленях.

Каталіцкія тэолагі імкнуцца даказаць, што Хрыстос не меў родных братоў, бо згодна з іх догмай Матка Хрыста, Марыя да смерці не страціла свайго дзявоцтва. Ісус жа паводле Евангелістаў Мацвея і Марка ( Мц 13, 53-57; Мк 6-3) меў чатырох братоў (Якуба, Язэпа, Сымона і Юду) і не менш чым дзве сястры. Гэта значыць, што пасля нараджэння Хрыста, яго матка Марыя была жонкай Язэпа і радзіла яму дзяцей. Каталіцкія тэолагі пішуць, што браты Ісуса — гэта не родныя, а дваюрадныя, бо ў арамейскай мове слова брат (Ах) абазначае не толькі роднага, але і дваюраднага брата. Але ніводнае Евангелле не было напісана на арамейскай мове, а толькі на грэчаскай. А ў старагрэчаскай мове ёсць слова анепсос — дваюрадны брат, а ў Евангеллі было ўжытае слова адэльфоі — родны брат.

Каталіцкая царква ў догмах пайшла далей. У 1854 г. рымскі папа Пій IX аб'явіў догму аб „бязгрэшным (беззаганным) зачацці", а ў 1950 г. папа Пій XII — аб узяцці на неба цела Маткі Боскай, Марыі.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

## ІКОНА БОЖАЙ МАЦІ „ДОСТОЙНО ЕСТЬ"

Назва гэтай іконы мае сувязь з адной падзеяй, якая адбылася звыш тысячы гадоў на Святой Гары Афон. Сама ікона намнога старэйшая за здарэнне.

11 чэрвеня 980 года (паводле старога стылю) вучань аднаго старца пайшоў на Усяночнае дбанне. У царкве далучыўся да яго незнаёмец. Калі паслушнік хацеў спяваць малітву „Честнейшую Херувим", той жа прышэлец заспяваў наступныя словы: „ Дастойна ёсць сапраўды славіць Цябе, Багародзіцу, заўсёды шчаслівую і найчысцейшую, і Маці Бога нашага", а пасля дабавіў „Честнейшую Херувим" (Пачаснейшую за Херувімаў). Адбылося гэта перад іконай „Мілуючая". Гэтыя словы прышэлец напісаў на каменнай пліце, якая стала мяккай, быццам воск. Потым загадаў ён, каб з гэтай пары менавіта так пачынаць пахвальную малітву да Багародзіцы і выявіў, што ён — Архангел Гаўрыіл, прычым таксама неспадзявана знікнуў, як і з'явіўся.

Пасля гэтага здарэння ікону перанеслі ў Сабор Успення Божай Маці ў гарадку званым Карэя. Калісьці быў там Карэйскі скіт, які з цягам часу стаў свайго роду адміністрацыйным цэнтрам Афона і цяпер называецца „манаскі гарадок Карэя". Менавіта там змяшчаецца сядзіба Пратата — рады, што кіруе Афонам, у склад якой уваходзяць па адным прадстаўніку ад 20 галоўных манастыроў на Святой Гары.



Святы Мікалай II Хрызаверг, Канстанцінопальскі патрыярх (983-996) афіцыйна ўстанавіў уводзенне слоў „Достойно есть..." перад словамі „...Честнейшую Херувим". З гэтага часу Ікону сталі называць першымі словамі малітвы-песні, спяванай Архангелам Гаўрылам. Афонская традыцыя гаворыць, што падчас спявання гэтай песні нябесным прышэльцам ад іконы разыходзіўся моцны бляск, а твар Багародзіцы быццам выказваў задаволенасць і згоду на пахвальныя словы.

Памяць Іконы „Достойно есть" ушаноўваем у дзень гэтага здарэння — 24 чэрвеня (11.06. па ст. стылю) і ў дзень Архангела Гаўрыіла — 26 ліпеня (13.07 па ст. стылю).

**С. Н.**




## УВАГА, БІБЛІЯФІЛЫ!

**Кнігалюбам надараецца магчымасць папоўніць свае бібліятэкі выданнямі, якія пашыраюць веды неабыкавыя беларусу. Антыкварыят у Познані прапануе ў свабодным продажу (каталог н-р 52, на які трэба спасылацца ў заказах), наступныя кніжкі:**

Poz. 153 — Gloger Z., Białowieża w albumie, Warszawa 1903. Cena 120 tys. zł.

Poz. 158 — Grivec F. ŚS. Cyryl i Metody Apostołowie Słowian, Kraków 1930. Cena 80 tys. zł.

Poz. 169 — Hołubowicz W., Garncarstwo wiejskie zachodnich terenów Białorusi, Toruń 1950. Cena 80 tys. zł.

Poz. 172 — Hryncewicz T. J., Muślimowie czyli tak zwani Tatarzy litewscy, Kraków 1924. Cena 60 tys. zł.

Poz. 386 — Meysztowicz W., Dobra kościelne jako przedmiot uprawnień w prawie W. Ks. Litewskiego, Wilno 1935, Cena 80 tys. zł.

Poz. 394 — Minkiewicz A., Cechy białostockie, Białystok 1936. Cena 60 tys. zł.

Poz. 398 — Mohl. A., Duchowieństwo zakonne w Cerkwi rosyjskiej, Poznań 1912. Cena 40 tys. zł.

Poz. 403 — Mościcki H., Pod znakiem Orła i Pogoni, Szkice historyczne, W-wa 1915. Cena 150 tys. zł.

Poz. 427 — Około-Kułak A., Kościół w Rosji dawnej, obecnie i w przyszłości, Kraków 1928. Cena 20 tys. zł.

Poz. 473 — Polkowski I., Cześć śś. Cyryla i Metodego w Polsce, Kraków 1885. Cena 50 tys. zł.

Poz. 496 — Pruszkowski J., Martyrologium czyli męczeństwo Unii na Podlasiu, Cz. 2, Lublin 1917. Cena 80 tys. zł.

Poz. 528 — Rzut oka na dorobek i metody pracy Towarzystwa Rozwoju Ziem Wschodnich, W-wa 1939 (oraz:) Dąbrowska H., Ziemie Wschodnie, nasza chwała i bogactwo, W-wa, b. r. Cena 25 tys. zł.

Poz. 586 — Stebelski I., Dwa wielkie światła na horyzoncie Połockim z cieniów zakonnych powstające czyli żywoty śś. panien i matek Eufrozyny i Parascewii zakonnic i hegumenij..., T. 1, Lwów 1866. Cena 80 tys. zł.

Poz. 591 — Stosunki kościelne na Litwie, Listy otwarte księdza do księży, Monachium 1905. Cena 40 tys. zł.

Poz. 657 — Urban J., Katolicyzm a prawosławie, Kraków 1912. Cena 80 tys. zł.

Poz. 687 — Walicki M., Cerkiew św. Borysa i Gleba na Kołoży pod Grodnem, W-wa 1929. Cena 180 tys. zł.

Poz. 702 — Wiercieński H., 3 testamenty. 1) 1790 — Aloizy Kosiński, Rotmistrz Nowogrodzki, zapisy na kościoły i cerkwie. 2) 1807 — Kajetan Bajkowski upomina SS-ów o łaskawe obchodzenie się z poddanymi. 3) 1812 — Aleksander kniaź Podhorski zwalnia z poddaństwa 18 swoich poddanych..., Lublin 1913. Cena 30 tys. zł.

Poz. 725 — Zjazd miast województw wschodnich (Wileńskie, Nowogrodzkie, Wołyńskie i Poleskie), II. Pamiętnik, uchwały, rezolucje, Wilno 1937. Cena 60 tys. zł.

Poz. 737 — Źródła do dziejów wojny polsko-rosyjskiej, T.1, Od 30 listopada 1830 do 4 marca 1831 r., W-wa 1931. Cena 400 tys. zł.

Заказы трэба накіроўваць на адрас: Antykwariat im. J. K. Żupańskiego, Stary Rynek 53/54, 61-772 Poznań.

**ПЁТР БАЙКО**

# ПЕРАКЛАДЧЫК У ГАЙНАЎЦЫ

**Гутарка з АЛЕСЕМ КУДРАЎЦАВЫМ, настаўнікам англійскай мовы ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы**

*— Алесь, напачатак скажы нашым чытачам, як ты, чалавек з Менска, апынуўся ў Гайнаўцы.*

— Год раней у гайнаўскім ліцэі выкладчыцай англійскай мовы працавала Алена Таболіч. Мы разам з ёю выкладалі на адным курсе ў Інстытуце замежных моў у Менску. Гэта менавіта яна сказала мне, што я магу тут прыдацца. Ну а потым — цягнік, аўтобус, Гайнаўка...

*— А чаму ты рашыў памяняць сталічны горад на правінцыю, а Інстытут — на сярэднюю школу?*

— Я прыехаў сюды толькі на год, перш за ўсё таму, каб палепшыць сваю матэрыяльную сітуацыю...

*— І сапраўды можна палепшыць сваю сітуацыю, працуючы ў Польшчы?*

— З матэрыяльнага пункту гледжання, праца тут аплачваецца прынамсі ў паўтара раза лепш, як у Беларусі. Безумоўна, я яшчэ ніколі не бачыў чалавека, якога да канца задавальняла б яго зарплата. І сам таксама да такіх не належу. Але стараюся — і таму, акрамя ліцэя, працую яшчэ на чвэрць стаўкі ў сельскагаспадарчай школе і даю прыватныя ўрокі ў хаце. А іншая справа, што ў мяне з жонкай у Менску няма свае кватэры. І мы жывем то ў адных бацькоў, то ў другіх, а то і ў дзядоў... Калі мяне ў Гайнаўцы наведалі жонка з дачкой, то адчулі сябе даволі нязвыкла, нарэшце ў асобнай, самастойнай кватэры.

*— З канцом навучальнага года ты пакідаеш Гайнаўку. Што будзеш рабіць зноў у Менску?*

— Перш за ўсё, я хачу вярнуцца да свае дысертацыі, працу над якой я перапыніў на час пабыўкі тут. Ну і яшчэ атрымаў прапанову працы, ад якой, папраўдзе, я не змог адмовіцца.

*— А як ты глядзіш на свае настаўніцкія поспехі ў гайнаўскім ліцэі?*

— Пасля інстытута працаваць у школе — нязвыкла. Узровень, безумоўна, не той, ну і выбачайце — калі ў класе 30 асоб, дык навучыць замежнай мове ўсіх няма магчымасці. А і тыя, якія маюць ахвоту і здольнасць да моваў, траціць шмат на тым, што я мушу займацца з цэлай групай.

*— З нейкага часу ў „Ніве" на апошняй старонцы з'яўляюцца байкі амерыканскага пісьменніка Амброза Бірса ў тваім перакладзе. Ці пераклады трактуеш як нейкую дадатковую крыніцу заробку?*

— На беларускіх перакладах цяжка зарабіць. Але ў іх ёсць вялікая патрэба, — асабліва ў перакладах з моваў арыгінала. Перакладамі стаў я займацца, калі з'явіўся часопіс „Крыніца". Прыйшоў да мяне Алесь Істомін, пабачыў, колькі ў мяне кніг на англійскай мове і сказаў: слухай, а чаму б табе не перакладаць на беларускую мову? Мне тады было 25 гадоў, і я да гэтага ані слова не сказаў па-беларуску. Спачатку я перакладаў на расейскую мову, і толькі з яе — на беларускую. Але, праз тры-чатыры месяцы, я ўжо стаў адразу перакладаць на беларускую мову. Можна лічыць, што з таго моманту я стаў адчуваць сябе беларусам. А на расейскую мову перакладаць ужо не магу — у мяне гэта проста не атрымліваецца, хаця па пашпарце я — рускі.

*— ???*

— Так... Я нарадзіўся ў сям'і вайскоўцаў на Далёкім Усходзе. Што праўда, бабка ў мяне была з-пад Гомеля, дык па крыві я прынамсі чвэрць беларус; але цяпер я лічу — што значна больш.

*— Што ты перакладаеш?*

— Я пачаў перакладаць з Рэя Брэдберы. Рэй Брэдберы і Амброз Бірс — гэта два мае любімыя пісьменнікі. Я працаваў над перакладам п'есы Оскара Уайльда „Як важна быць сур'ёзным", хочацца перакласці яго „Партрэт Дарыяна Грэя". У апошнім часе дапрацоўваў пераклад „У трыдзевятым каралеўстве". Хацелася б перакласці „Франкенштайна" М. Шэлі, „Айвенга" У. Скота і некаторыя іншыя рэчы. Я ніколі не буду грэбаваць перакладамі дэтэктываў, прыкладам, Агаты Крысці ці Рэкса Стаўта, бо з такой літаратуры людзі наогул пачынаюць чытаць. Ніхто не пачне з „Уліса" ці „Махабхараты". З аднаго боку прыемна, калі табе надрукуюць нешта класічнае, але з другога, калі ведаеш, што хутчэй з'явіцца нешта папулярнае, дык бярэшся якраз за гэтае другое.

*— Ці ў сваёй перакладчыцкай працы ты моцна адчуваеш недахоп беларускіх перакладных слоўнікаў, канкрэтна, добрага англійска-беларускага слоўніка?*

— Мне гэта не так і важна. Пры перакладах мне даводзіцца заглянуць у англа-расейскі слоўнік дзесьці ў 10 % выпадкаў. Перакладчыку, які добра ведае беларускую мову, істотна мець добры тлумачальны іншамоўны слоўнік (нейкі тоўсты Webster ці слоўнік слэнгу Партрыджа). Я стараюся зразумець значэнне таго ці іншага англійскага слова з дапамогай англійскага тлумачальнага слоўніка, а толькі потым дапасоўваю яму беларускі эквівалент. Але перакладныя слоўнікі патрэбныя, перш за ўсё перакладчыкам-пачаткоўцам, каб наогул узгадаваць перакладчыцкія кадры. Бо калі малады перакладчык карыстаецца спачатку англа-расейскім слоўнікам, а потым расейска-беларускім, у якім слова *аловак* гучыць, як „карандаш", гэта ўжо нават і не смешна! А потым мы здзіўляемся, адкуль у беларускай мове столькі русізмаў...

*— На заканчэнне, Алесь, скажы нам: як пасля года ў Гайнаўцы бачыцца табе наша беларускасць, у самім ліцэі ці, наогул, на Беласточчыне?*

— З аднаго боку — у Беларусі татальная русіфікацыя, а на Беласточчыне — паланізацыя. Шчыра кажучы, беларусаў я бачыў тут мала. Ну, вас, хлопцы, у „Ніве", во яшчэ Шурыка Лаўрыновіча і Геніка Вапу ў нашым ліцэі, а каго яшчэ?.. З настаўнікаў яшчэ пастаянна па-беларуску звяртаецца да мяне полька з-пад Замосця Ядвіга Дамброўская. І вучням да мяне яна кажа гаварыць па-беларуску, але яшчэ ніводзін не паслухаўся яе... У Гайнаўцы і ваколіцы беларускасці як такой няма — бо няма беларускіх школ. Наш ліцэй называецца *z białoruskim językiem nauczania*. Што гэта абазначае? Гэта такая школа, у якой усе прадметы выкладаюцца па-беларуску. А тут жа — *liceum z nauczaniem języka białoruskiego*. На новым будынку павінна вісець новая шыльда.

**Гутарылі МІКОЛА ВАЎРАНЮК і ЯН МАКСІМЮК**
**Фота М. Ваўранюка**



*Алесь Кудраўцаў: на расейскую мову я ўжо перакладаць не магу...*

**P.S.** Кембрыджскі біяграфічны цэнтр абраў Алеся Кудраўцава чалавекам 1992/93 гадоў. І прыслаў яму адмысловыя граматы, пацвярджаючы гэты нечаканы яму выбар. Сярод выбраннікаў знайшоўся ў гэты самы час і Міхаіл Гарбачоў. Жонка Алеся пракаментавала: „Ну й кампанію ты сабе знайшоў!"

## ХАЦЕЛАСЯ Б...

У днях 23—30 мая гэтага года прайшоў у Гайнаўцы XII выпуск Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі. Упершыню фестываль гэты меў такую велічную форму — усе фестывальныя мерапрыемствы цягнуліся роўна тыдзень часу. Адчыніў Фестываль канцэрт Гурту царкоўнай музыкі Варшаўскай камернай оперы пад кіраўніцтвам а. Юрыя Шурбака ў нядзелю 23 мая. Наступнага дня адбыўся семінар для дырыжораў хораў. Ад аўторка да суботы праходзілі конкурсныя праслухванні хораў у паасобных іх катэгорыях — парафіяльныя хоры, манастырскія, свецкія прафесійныя, свецкія аматарскія і хоры тэалагічных вучэльняў. Сёлетні выпуск Фестывалю меў нават сваю адмысловую газету — у перыяд трывання імпрэзы з'явілася два яе нумары.

Як і штогод зрок артыстычнага свету накіроўваўся на правінцыяльную Гайнаўку (правінцыяльную як, дарэчы, і ўвесь наш рэгіён) — на Фестываль прыбыло трыццаць хораў з розных куткоў Польшчы і замежжа, прыехалі спецыялісты па царкоўнай музыцы, кампазітары, прадстаўнікі цэнтральных і мясцовых улад, а мітрапаліт Васілій каторы ўжо раз падкрэсліў, што сапраўднай музыкай з'яўляюцца якраз царкоўныя спевы і ніякія інструменты не заступяць. Гэта „жывы голас Царквы, якая ад вякоў усхваляе Госпада, нібы анёлы ў нябёсах".

У нядзелю 30 мая былі аб'яўлены вынікі конкурсу ды адбыўся гала-канцэрт лаўрэатаў. У яркім святле юпітэраў, сярод кветак і віншаванняў, сыпаліся са сцэны Гайнаўскага дома культуры падзякі спонсарам Фестывалю ды людзям, якія дапамаглі ў яго арганізацыі. Верная Фестывалю публіка ўсіх узнагароджвала воплескамі. Здавалася б, што гайнаўскі Фестываль дасягнуў ужо вяршыняў. Не пачулі мы ў гэтым годзе аднак тых пару свойскіх слоў, сказаных дырэктарам Фестывалю Мікалаем Бушко на мужыцкай мове да публікі з мазалістымі рукамі. Маленькая справа, але пакінула непрыемны асадак — быць можа царкоўная музыка мае шырэйшае за меншасныя справы вымярэнне, але якое тады вымярэнне мае ў нашым рэгіёне праваслаўе?

Panie dyrektorze, tych parę słów po mużycku należało się publiczności. Nie byłoby w tym zresztą dla nikogo żadnego dyshonoru.

**(ам)**

## ВЕРШ-УСПАМІН

Гэты верш даслаў нам брат францысканец Браніслӑў Кавэцкі, наш верны чытач і карэспандэнт з Катавіцаў. Атрымаў ён яго ў 1964 годзе ад 83-гадовай Галены Гардзялкоўскай з Паслэнка, якая калісьці працавала на Беларусі. У часе вайны хавалася яна ў палякаў і беларусаў, дзе патаемна вучыла дзяцей. Была яна арыштаваная, і як вораг народа сасланая. На Урале ўдалося ёй уцячы. Зноў прыйшлося ёй хавацца ў ваколіцах Коўна і Брэста, і ўрэшце трапіла ў Польшчу. Дзе б аднак чалавек не пабываў, заўсёды ў яго памяць вяртаецца матчы роднай зямлі і традыцыі, а пры канцы жыцця перш за ўсё хочацца гаварыць аб гэтым. Вершык пра Гаўрылу запамятаўся Галене Гардзялкоўскай на ўсё жыццё і быў прыемным успамінам у даволі складанай яе біяграфіі.

### ПОБЫТ ГАЎРЫЛЫ Ў ГОРАДЗЕ

Бог хоць раз прывёў Гаўрылу
Ў велькім горадзе пабыць,
Але ж вёскі сваёй мілай
Не магу ніяк забыць.

Як я доўга не пабачу
Сваю хату, поле, луг,
Ой, як горка, чуць не плачу!
Тут я цэлам, там мой дух.

Там табе ўсё знаёма,
Свой парадак, свой народ
І нідзе не лепш, як дома.
Тут дзень пройдзе, як там год.

Можа з месяц я там шляўся,
Можа й боты патаптаў,
А каб хто ў мяне спытаўся,
Чаго я тут прывандраваў?

Раз ў „ціятр" я зацясаўся,
За білет два злоты даў.
Толькі злосці там набраўся.
Я б тых баб павыганяў.

Нейкіх цацак начаплялі.
А як скачуць? Дзе іх ўстыд?
І чорт знае што спяваюць,
Ну, каб быў тут наш Дзямід!

Як пакажа нагу босу,
Дык не знае, як крычаць.
От, каб ўзяў тады атосу,
Паказаў бы як скакаць!

Толькі раз было там хвацка!
Выйшаў просты чалавек,
Такі смешны, як наш Яська.
Ухавай яго, Бог, век.

А як выйшаў, засмяяўся,
Каб цябе паралюш ўзяў!
Як скакаць ён сабіраўся,
Проста бокі падарваў!

Пойдзеш ў сад, паглядзіш,
Там ўсе пані, панічы
Ходзяць гэтак памаленьку
Абібокі, таўкачы.

Вось, касіць бы іх заправіў,
Або серп у рукі даў,
Ды ў жывот картоплі ўправіў,
Вось бы ён пазухаваў.

Каб скарэй адно да дому,
Усапраўды, не маню.
Закажу я і ліхому
Ехаць ў гэту таўкатню.

## ДУША НА ЎСХОДЗЕ

Нядаўна паказалася ў продажы чарговая кніжка Тэрэсы Занеўскай пад загалоўкам „A dusza jest na Wschodzie"/*.

Аўтарка, вядомая як крытык творчасці „белавежцаў", выкарыстала гэтым разам найбольш папулярную цяпер форму запісу, а менавіта інтэрв'ю з асобай, якой думкі і погляды прадстаўляецца.

Тэрэса Занеўска прымяніла вельмі цікавы спосаб выбару сваіх размоўцаў — гаварыла на перамен з вядомымі польскімі знаўцамі беларускай літаратуры, культуры і гісторыі і літаратарамі з Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Сярод гэтых першых знайшліся такія выдатныя пісьменнікі і літаратуразнаўцы, як Тадэуш Канвіцкі, Эўгеніюш Кабатц, Флёрыян Няўважны, Віктар Варашыльскі, Чэслаў Сэнюх і Земавіт Фэдэцкі, сярод другіх — Ян Чыквін, Сакрат Яновіч, Віктар Швед, Георгій Валкавыцкі, Уладзімір Гайдук, Надзея Артымовіч, Зося Сачко, Міхась Шаховіч.

Выказванні беларускіх пісьменнікаў з'яўляюцца ў большасці рэфлексіяй над светам, у якім яны жылі, паказваюць аж надта натуральна наш меланхалічны падыход да рэчаіснасці, трактоўку літаратуры як нечага святога. Польскія крытыкі — у адрозненні ад нашых літаратараў — думаюць больш рэалістычна пра нашую літаратуру, бачаць яе як адлюстраванне нашай псіхікі, сфармаванай гістарычнымі, сацыялагічнымі і эканамічнымі працэсамі. Ёсць сярод іх выказванняў шмат горкай для нас праўды, але ёсць і шмат наіўнасці, якая бярэцца з неарыентаванасці ва ўсіх рэаліях нашага сённяшняга беларускага жыцця. Як жа сумна гучыць сказ Канвіцкага „... umieram z bólu, jak czytam, że w Mińsku 3,8 % ludności mówi po białorusku, a nie chce znać tego języka 40 %." Большасці палякаў, відаць, зусім незразумелае, што ў сталіцы дзяржавы толькі невялікі працэнт жыхароў гаворыць на роднай мове.

Кніжка выдадзена на польскай мове і можа быць даступна таксама для тых беларусаў Беласточчыны, якім цяжка чытаецца на роднай мове.

**Я. М.**

---

*/ Teresa Zaniewska, A dusza jest na Wschodzie, Polsko-białoruskie związki literackie. Biblioteczka Białoruskiego Stowarzyszenia Literackiego „Białowieża" pod redakcją Jana Czykwina. Książka dziesiąta. Białystok 1993.

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**24 - 05 - 1989 г.**

Gdzie są Białorusini? — патрэбнае інтэрв'ю Максімюка ў праваслаўніцкім часопісе „Tygodnik Podlaski". Удумнае! Не меней пазітыўна здзівіў мяне Генік Міpановіч, выказваючы ў сваім інтэрв'ю сённяшняй „Ніве" цалкам спелыя заўвагі і думкі.

Усё часцей з'яўляецца думка, што няма чаго шукаць у іншых... Выбарная кампанія паказвае, што ніхто не дапаможа нам, калі мы самі сабе не дапаможам. Вяртаецца як быццам тарашкевічаўская сітуацыя: у Варшаве неблагія кантакты з палякамі, а ў Беластоку наўкола польская сцяна (праўда, сям-там дзіры ў ёй). Палічацца з намі толькі тады, калі мы самі здабудзем сваё значэнне.

Перш за ўсё ёсць нагода адкінуць усякае беспатрабноцце сувязяў, ужо відочна лішніх, якімі зноў аброс я.

**29 - 05 - 1989 г.**

(...) Адвячоркам — у Бельску (пад'ехаў сюды цягніком Генік Міpановіч з хлопцамі). У тутэйшым амфітэатрыку паўтарылася ўдача на падабенства тае ў Гайнаўцы: град апладысментаў — не столькі за змест, колькі за беларускую прамову! (— паляку Цімашэвічу ўвогуле ніхто не запляскаў). Беларушчына зрабілася нашым апазнавальным сімвалам.

З бельскай імпрэзы — яшчэ ў Чыжы (і там быў нейкі канцэрт і нейкае свята). Трох — у гэты раз — польскіх кандыдатаў і нас двух. Ізноў найлепей слухалі менавіта нас, бо свае мы.

Сёння ж — ужо адзін я, бо Геніку не было калі — у ліцэі імя Тарашкевіча (начаваў у Морданя). Былі пытанні, і ўсё працягнулася больш за гадзіну. Выліў я на ўтарапелыя галовы ліцэістаў усю жоўць беларускага лёсу тут.

Чатырыста „з гакам" кіламетраў дарогі. Ад вёскі да вёскі, ад мястэчка да мястэчка. Праваслаўнікі і неаўкраінцы зрываюць нашы афішы ды лістоўкі або залепліваюць іх сваімі. Іхныя кандыдаты: Багдан Мартынюк як украінец і Генік Чыквін з Янам Піўнікам як праваслаўныя (...).

**31 - 05 - 1989 г.**

Стома ўжо дае знаць аб сабе: нясціханая слабасць ва ўсім целе. Ёсць і задаволенасць: наша выбарная акцыя праходзіць нашмат лепей, чымсьці я думаў. (...)

Як на нашу аматаршчыну, цалкам добра. Вынікі ў выбарах павінны атрымацца заўважальнымі. Можа калі, у будучым, і выйграем каторыя выбары... Саюз з „праваслаўнікамі" немагчымы, бо яны ўваходзяць у састаў урадавай кааліцыі (а мы — не!). (...)

**1 чэрвеня 1989 г.**

„Плакатная вайна" набліжаецца да свайго апагею. Надрукавалі два новыя плакаты, з бел-чырвона-белым фонам (які падказаў нашаму графіку Петруку Ясь Максімюк). Мой „начальнік выбарнага штаба" Віктар Стахвюк безупынна накіроўвае на правінцыю агітатарскія „дэсанты". Перадвыбарчая гарачка.

Адвячоркам — кандыдаты ў сенатары на сустрэчы ў Ваяводскай Управе з тысячнай масай работнікаў адміністрацыі. Маё выступленне ў друку „Naszym symbolem jest mowa", з акцэнтам, перасунутым на гаспадарчыя праблемы (беларуская меншасць — гэта ў першую чаргу пытанне Ściany Wschodniej, пытанне будучыні ўсяго рэгіёна). Гэты акурат фрагмент працытуюць потым у польскіх радыёперадачах (у ранішніх назаўтра). (...)

Мабілізаваўся БАС. На маладых трымаецца ўся наша інтэнсіўнасць акцыі (спачатку як быццам не было відаць іх).

**05 - 06 - 1989 г.**

03-га абклейвалі Беласток, ад чацвертае гадзіны раніцы (уночы абрываюць!). Падобная акцыя ў Бельску і Гайнаўцы. У пятніцу (02-га) — пяць экіпажаў на паўднёвым усходзе, а ў суботу — тры. Аб'ездзілі Беласточчыну ад Сямяцічаў па Новы Двор і Дуброву. (...) Пра мяне — плёткі, што я „тайны агент Салідарнасці" (асабліва бушуе Генік Чыквін, праваслаўнік). У Гайнаўцы і раёне кантруе супроць мяне ПАРП („Салідарнасць" не чапае).

Сёння — першыя вынікі: „Салідарнасць" у трыумфе. У Беласточчыне — у некаторых раёнах я не ўступаю партыйцам (— у гор. Бельску 27 %, а Шаматовіч 28 %). Дзесяць працэнтаў усіх галасоў відаць не ўзбіраю, але каля 7-мі павінна быць... Цікава будзе зрабіць іх геаграфію (нават у Бранску і Боцьках нямала галасавала на мяне). Перамога „салідарнікаў" Стэльмахоўскага і Каліцінскага проста магутная. З Каліцыі толькі пер'е пасыпалася.

*Працяг будзе*

## ДА ЎВАГІ ЛІТАРАТАРАЎ

Падляшскі літаратурны клуб „Максыма" з Белай-Падляшскай аб'яўляе IX Агульнапольскі літаратурны конкурс імя Ю. І. Крашэўскага ў катэгорыі паэзіі і прозы. Сярод узнагарод прадбачваюцца спецыяльныя прызы за падляшскую тэматыку і за твор, прысвечаны патрону конкурсу. Працы (падборкі 3—5 вершаў, або да 20 старонак прозы — у трох экземплярах машынапісу) падпісаныя крыптанімам, з далучаным заклееным канвертам з гэтым жа крыптанімам і з данымі пра аўтара ў яго сярэдзіне, трэба дасылаць да 31 жніўня 1993 г. на адрас:

Klub Kultury „Piast"
Podlaski Klub Literacki
„Maksyma"
ul. Spółdzielcza 4
21—500 Biała Podlaska
„Konkurs"

Літаратурнае таварыства імя Адама Міцкевіча ў Коніне арганізуе XIII Агульнапольскі паэтычны конкурс аб узнагароду „Мілёвага слупа". Мэта конкурсу — папулярызацыя паэтычнай творчасці, разбуджанне талентаў, стварэнне ўмоваў для публічных кантактаў і канфрантацыі аўтараў з чытачамі. Дасылаць трэба падборкі (колькасць іх не абмяжоўваецца) з трох вершаў у пяці экземплярах, якія дагэтуль не публікаваліся і не ўзнагароджваліся. Творы павінны быць падпісаны крыптанімам. Абавязкова трэба далучыць да іх заклеены, пазначаны крыптанімам канверт, у сярэдзіне якога павінны быць даныя аб аўтару і яго адрас. Працы на конкурс трэба дасылаць да 10 верасня 1993 г. на адрас:

Zakładowy Dom Kultury
„Hutnik"
ul. Dworcowa 7a
62—510 Konin
„Milowy słup"

## НЕ МАЛАЧУ, АЛЕ АДКАЗВАЮ

Ян Чыквін закідвае мне („Ніва" н-р 19 ад 9 мая г. г.), што я хачу „малаціць з ім салому слоў". Адкуль ён гэта ўзяў? Я толькі адказаў на яго няпраўдзівы закід, што быццам бы я не хацеў „унесці папраўак ці проста дапрацаваць" мой зборнік „Эцюды падарожжа". І гэта ўсё. Не разумею таксама, якія яго „ранейшыя спасцярогі" я пацвярджаю. У тлумачальным слоўніку беларускай мовы слова „спасцярога" не значыцца.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

## ПЕСНЯ — МАЯ ЛЮБОЎ

**Інтэрв'ю для „Нівы" з вядомай рускай спявачкай ЖАННАЙ БІЧЭЎСКАЙ.**

**„Ніва": — Гутарым з Вамі пасля канцэрта ў Гайнаўскім доме культуры. Сваім дасканалым выкананнем рускіх народных песень ды песень манахапаэта айца Рамана Вы заваявалі публіку. Не адпускала яна Вас са сцэны. Вы ствараеце такую прыемную атмасферу...**

**Жанна Бічэўская**: — Дзякую за мілыя словы. Так як Вы самі бачылі і чулі, мне прыйшлося праспяваць дзве песні на біс. Дарагім і сімпатычным слухачам я дадаткова выканала мелодыі *„Па дзікіх стэпах Забайкалля"* і *„Тры любві"*.

**— У Вашым рэпертуары многа старадаўніх народных песень, а ў іх адчуваецца, так сказаць, душа рускага народа.**

— Многія з іх я запісала падчас сваіх шматлікіх паездак па Расіі. Некаторыя давялося апрацаваць. Між імі: *„Данская балада"*, *„Куманёк"*, *„Долячка"*, *„Камарыкі"* і *„Чорны крумкач"*. На грампласцінку гэтыя песні запісала як, зрэшты, і многія іншыя Маскоўская фанаграфічная фірма „Мелодыя". Якраз гэтыя песні я спявала, а на скрыпцы іграў мне Васіль Антоненка.

**— Вы амаль неразлучны з гітарай... Без яе Вас цяжка ўявіць.**

— Гітара мне найбольш адпавядае. Я між іншым, закончыла музычную школу ў Маскве, па класе гітары. Акампануючы, я спяваю песні Булата Акуджавы. Запісала іх на кружэлку ў 1983 годзе. Былі гэта перш-наперш *„Па Смаленскай дарозе"*, *„Прабачце пяхоце"*, *„Нашае жыццё — не гульня"*, *„Песня пра блакітны шарык"*, *„Тры сястры"* і *„Малітва Франсуа Війона"*. Яны асобны раздзел у маёй творчасці.

Спявала я і іншыя рускія народныя песні, і не толькі пад гітару. Пры выкананні некаторых з іх мне акампанавалі Валянцін Зуеў на фартэпіяна, клавесіне і гармоніі ды Уладзімір Бандыроў — на балалайцы.

**— Падчас канцэрта прагучалі балады і песні айца Рамана. Балады ў Вашым выкананні — найвышэйшае майстэрства, а вось песні згаданага манаха-паэта спявалі Вы супольна з Генадзем Панамаровым...**

— З Генадзем спяваем мы паэтычныя песні, песні айца Рамана: *„Госпадзі памілуй"*, *„Сон"*, *„Сонца праўды"*, *„Пакаянне"* і іншыя. Яны захапляюць, робяць вялікае ўражанне на публіцы.

**— Спадарыня Жанна, Вы нарадзіліся ў Маскве, тут прайшло Ваша дзяцінства, тут закончылі вучобу і...**

— У дзяцінстве хадзіла я гуляць на Чырвоны пляц. Прайшлі гады і я закончыла Маскоўскую школу эстраднага мастацтва. Ішоў 1973 год. У Маскве якраз адбываўся Усерасійскі конкурс эстрадных артыстаў, які адбываецца кожныя чатыры гады. Выступіла я на ім і... заняла першае месца. Поспех быў вялікі. Здабыла сабе папулярнасць, выконваючы рускія народныя песні. З тае пары я стала вядомай як спявачка не толькі ў сваёй краіне, але і па-за яе межамі. Дагэтуль я выступала ў 42 краінах свету. Былі ў мяне гастролі ў Заходняй Еўропе і ў Паўночнай Амерыцы. Спявала я на славутай сцэне „Алімпія" ў Парыжы. Не спявала толькі ў Японіі.

**— Недзе ў сямідзесятых гадах Вы, дзякуючы выкананням рускіх баладаў, сталі — побач з Высоцкім і Акуджавай — сімвалам рускай аўтарскай песні. Ужо тады былі жаданым госцем у Польшчы.**

— Гэты мой візіт у Польшчы будзе дваццаць пятым. Я тут я часты госць. На Беласточчыне я ўжо другі раз. Першы раз была ў кастрычніку 1991 года, але ў Гайнаўцы ўпершыню. Гэты горад мне спадабаўся (я не люблю вялікіх гарадоў, у якіх адчуваю сябе мурашкай). Столькі ў ім зелені, а тут яшчэ, удадатак, і пушча побач! Гайнаўская публіка цудоўная. Мае песні ёй спадабаліся. Пасля канцэрту выкупілі ўсе(!) мае магнітафонныя касеты і кампакт-дыскі, якія мы прывезлі з сабой.

**— Цёпла Вас сустракаюць у Польшчы...**

— О, так! У гэты раз мяне запрасіў на гастролі дырэктар Беластоцкага аддзела Акадэмічнага бюро культуры і мастацтва „Альма-Арт" Яраслаў Гайда. У студыі Польскага радыё ў Ольштыне я найграла свой першы кампакт-дыск — альбом „The Best". У ім — мае найлепшыя і найбольш вядомыя песні. Кампакт-дыск выпусціла вядомая чэшская фанаграфічная фірма „Супрафон" па заказу варшаўскай фірмы „First Class". Здымалі мяне на кінаплёнку ў розных польскіх мясцовасцях, у тым ліку, між іншым, і ў Яблачыне над Бугам, у тамашнім праваслаўным манастыры.

**— Дзякую за размову.**

— Хвіліначку. Чытачам „Нівы" перадайце мае найлепшыя пажаданні!

**Гутарыў**
**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# АПОШНІ З'ЕЗД БГКТ

## Уражанні і роздумы дэлегата

### МЕЎ СТАЦЬ ПЕРАЛОМНЫМ

23 мая адбыўся XII З'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства, які меў быць пераломным здарэннем у жыцці арганізацыі. У мяне, дэлегата з Бельска-Падляшскага, на жаль, не склалася такое ўражанне. На сходзе пераважалі, на маю думку, паказуха, пампезнасць, стэрэатыпы і дэмагогія, мала было канкрэтнай дыскусіі і такіх жа прапаноў. Гэтыя апошнія, заключаны ў пастановах, якія мелі быць падсумаваннем З'езда і заадно праграмай дзейнасці Таварыства, абмежаваліся да пажаданняў, якія павінна здзейсніць новаабранае Галоўнае праўленне. Але, ці новыя ўлады — як гэтага пажадаў З'езд — здольныя пасадзейнічаць ў тым, каб у беластоцкіх школах беларускія дзеці пачалі навучанне роднай мовы (гэты пастулат ставіцца ўжо дзесяцігоддзямі)? Які ўплыў можа мець БГКТ на справу перадачы на ўласнасць Праваслаўнай царкве комплексу будынкаў Супрасльскага манастыра? Скуль Таварыству узяць звыш мільярда злотых на выкуп будынка на вул. Варшаўскай 11, калі няма грошай на яго арэнду? Гэтыя праблемы дэлегаты ўсклалі на плечы новага старшыні, на якім апіраецца ўся дзейнасць галоўных улад БГКТ.

### АТМАСФЕРА САМАЗАДАВОЛЕНАСЦІ

З самога пачатку абрадаў З'езда здзіўляла мяне атмасфера самазадаволенасці сярод большасці дэлегатаў. Яны не заўважалі сапраўдных цяжкасцей, з якімі не можа справіцца беларуская грамадскасць у Польшчы. Дзіва бярэ, што некаторыя асобы не разумеюць дэмаграфічных, культурных і сацыяльных перамен, якія адбываюцца ўжо дзесяцігоддзямі, што не заўважаюць уласнага бяссілля ў пераадольванні гэтых некарысных нам з'яў (ідзе тут гаворка галоўным чынам пра асіміляцыю беларусаў у гарадскім асяроддзі), што няслушна звальваюць віну за свае няўдачы на маладых людзей, згуртаваных у іншых беларускіх арганізацыях. Такі стан лічу галоўнай трагедыяй БГКТ. Аляксандр Баршчэўскі і многія дзеячы Таварыства — баюся, што яны ў гэтым поўнасцю пераканаы — лічаць, што маладыя беларусы ў сапраўднасці хочуць толькі знішчэння гэтай арганізацыі. Выдуманую — мяркую — „варожасць" асабліва падкрэсліваў у кожным сваім выступленні А. Баршчэўскі. Гаварыў ён аб палках і камянях, якія — паводле яго — кідаюць у БГКТ іншыя арганізацыі. Відаць, памыліў ён польскіх, нацыяналістычных „скінаў" з беларускімі студэнтамі. Такія выказванні сведчаць толькі аб тым, што ў былога старшыні паявіліся ўжо сімптомы маніі праследавання.

### НІХТО НЕ АСПРЭЧВАЕ ЗАСЛУГ

Пакуль што, няма агульнай мовы паміж „старымі" і „маладымі". Справа тут не ў даслоўным змаганні, але ў змаганні ідэі „старога" — „фальклорнага" мыслення папярэдніх улад БГКТ (якія пастунова штораз больш адыходзяць ад рэчаіснасці) з „новым" — прагматычным падыходам маладых беларусаў да таго, што дзеецца цяпер.

Ніхто з беларусаў, згуртаваных у іншых арганізацыях, не аспрэчвае заслуг БГКТ у захаванні нашай тоеснасці ў перыяд Польскай Народнай Рэспублікі. Старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Алег Латышонак неаднойчы падкрэсліваў добрую працу Таварыства ў галіне масавай культуры, хваліў за арганізацыю фэстынаў, конкурсаў, Свята беларускай культуры. Але, гледзячы на справу з другога боку, трэба сказаць, што студэнцкія мерапрыемствы — „Басовішча", атрасіны, рэйды па Беласточчыне — гуртуюць намнога больш моладзі, найчасцей гэтай „гарадской". Менавіта гэтага не хацела заўважаць папярэдняе кіраўніцтва БГКТ. Пытанне моладзі закрануў на З'ездзе настаўнік беларускай мовы ў гайнаўскім ліцэі Васіль Сакоўскі, які аднёсся да праблем нашых студэнтаў у вышэйшых навучальных установах у Рэспубліцы Беларусь. Яго канкрэтнае выступленне не знайшло водгуку.

### СУВЯЗІ ПАРВАЛІСЯ ЎЖО ДАЎНО

Дэлегаты, якіх сярэдні ўзрост наблізіўся да пенсіённага, мабыць і не заўважылі, што ў зале адной з нямногіх маладых асоб (да сарака гадоў) была студэнтка Дарота Голуб з гданьскага аддзела БГКТ (яна таксама член БАС і, як відаць, у Гданьску з гэтае прычыны „канфлікту" няма). На жаль, яе крытычныя выказванні ў адрас улад Таварыства не дачакаліся адказу, а пытала яна, чаму без кансультацыі з гданьскім асяроддзем кіраўнікі ГП адмовіліся ад сядзібы тамашняга аддзела.

Сувязі папярэдніх улад БГКТ з моладдзю парваліся ўжо многа-многа гадоў таму і ў выніку ўзнікла Беларускае аб'яднанне студэнтаў. Адсутнасць адназначнай пазіцыі кіраўніцтва Таварыства ў адносінах да агульнакраёвых грамадскіх і палітычных працэсаў давяла да таго, што частка былых дзеячоў БГКТ і студэнты стварылі палітычную партыю — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Яны распрацавалі новую канцэпцыю функцыянавання беларускай грамадскасці ў Польшчы, зусім іншую ад уяўленняў А. Баршчэўскага, накінутых ім для БГКТ. Менавіта гэта з'яўляецца крыніцай разладу сярод беларускіх элітаў, аднак Баршчэўскі вульгарызуе справу, зводзячы ўсё да канфлікту паміж арганізацыямі і абвінавачваючы новыя структуры за ўсе няўдачы, якія пацярпела БГКТ у гады хуткіх перамен, калі не патрапіла яно знайсці свайго месца ў сучаснай рэчаіснасці.

Рэгрэсіўная з'ява ў дзейнасці БГКТ — страта сядзібаў аддзелаў у Бельску-Падляшскім, Гданьску, Саколцы і Варшаве. У справаздачы Галоўнага праўлення сказана аб гэтым коратка: „у сувязі з фінансавымі цяжкасцямі Галоўнае праўленне не мае магчымасці плаціць за арэнду памешканняў". Аб фінансавых цяжкасцях гаварыў я ўжо два гады таму, калі стваралася Рада беларускіх арганізацый і тады аргумент, што дзяржаўныя датацыі могуць спыніцца пераважыў за тым, што БГКТ прыняло ўдзел у стварэнні агульнабеларускай структуры, але празмерныя амбіцыі А. Баршчэўскага не дазволілі яму палічыць усе арганізацыі роўнымі. На жаль, хаця мы тады і мелі рацыю, аднак не мелі ўплыву на паводзіны папярэдніх улад БГКТ, якія нясуць поўную адказнасць за свае няўдачы.

### НІЎСКІЯ МАНІПУЛЯТАРЫ

Як паражэнне папярэдніх улад БГКТ, а не ўсёй арганізацыі, трэба лічыць набыццё самастойнасці тыднёвікам „Ніва". І ў нічым тут не дапамогуць найгоршыя, а яны ж суб'ектыўныя, выказванні наконт рэдакцыі, якія часта фармулюе А. Баршчэўскі. У адным са сваіх выступленняў адышоў ён ад усялякай разважлівасці, называючы журналістаў і галоўнага рэдактара маніпулятарамі, падобнымі да найгоршых дактрынёраў з КПСС. Гэта паказвае, што А. Баршчэўскі страціў ужо пачуццё рэчаіснасці і добра сталася, што адышоў ён з пасады старшыні БГКТ. Гэтае яго паражэнне (пераможцы ніколі не адыходзяць), можа пайсці на карысць Таварыству. Вяртаючыся да „Нівы", дык трэба сказаць, што пры новым рэдактары тыраж нязначна павысіўся і толькі ад кандыцыі беларускай грамадскасці (таксама дзеячоў БГКТ) залежыць будзе кшталт і далейшая жыццяздольнасць гэтай газеты.

### ДЫСКУСІЯ ЗАЙМАЕ ТОЛЬКІ ЧАС

Паражэнне папярэдніх улад БГКТ — задоўжанасць арганізацыі з арэнднымі аплатамі, якія ўжо складаюць суму некалькіх сот мільёнаў злотых. Задоўжанасць расце ў сітуацыі, калі ў Таварыстве ляжыць невыкарыстанае камп'ютэрнае паліграфічнае абсталяванне, вартае, паводле цэнаў двухгадовай даўнасці, паўмільярда злотых. Рэгрэс відаць таксама ў выдаванні календара. Апошні яго выпуск адзначаецца сарамліва нізкім тэхнічным узроўнем (калі пад рукою знаходзіцца высокаякаснае камп'ютэрнае абсталяванне для набору тэкстаў), ненайлепшым мерытарычным зместам і сціплым аб'ёмам. Калі ўзяць пад увагу выдавецкія здабыткі Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" за апошнія месяцы, можна было б падумаць, што гэтая арганізацыя — велікан у параўнанні з БГКТ, а яна гуртуе толькі дзесяткі з два беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, якія дзейнічаюць на польскім грунце.

Толькі дэлегат з Гайнаўкі, Міхал Байко, узняў мерытарычную дыскусію над справаздачай папярэдніх улад БГКТ. Без непатрэбных слоў сказаў ён, што няпраўдзівым з'яўляецца сцвярджэнне, што, быццам бы, Таварыства „ўтрымоўвае цесныя кантакты з настаўнікамі беларускай мовы", што відаць на прыкладзе падставовага школьніцтва ў Гайнаўцы, дзе на некалькі тысяч беларускіх дзяцей родную мову вывучае ўсяго некалькі дзесяткаў. М. Байко хацеў задумацца над вырашэннем гэтага важнага пытання, але быў прымушаны абмежаваць сваё выступленне ў выніку каментарыяў залы і папрокаў прэзідыума З'езда. Не зважаючы на так дзіўную трактоўку часткай дэлегатаў аднаго з нешматлікіх канкрэтных выступленняў, далей лічу кур'ёзным выказванне нейкай дэлегаткі (яе прозвішча не ведаю), якая ў час размовы ў кулуарах, пасля закрыцця З'езда, сказала: „навошта ўся гэтая дыскусія, якая толькі час займае".

### ТАТАЛІТАРНЫЯ ПАМКНЕННІ

XII З'езд паказаў таксама, якія вялікія амбіцыі і таталітарныя памкненні мелі папярэднія ўлады БГКТ у адносінах да ўсёй беларускай грамадскасці ў Польшчы. Выразна гэтае можна было пачуць у прамовах А. Баршчэўскага, які поўнасцю аспрэчваў дзейнасць іншых беларускіх арганізацый і выказваўся аб іх без найменшай пашаны. Былы старшыня Таварыства не патрапіў на працягу пяці гадоў (з часу рэгістрацыі ў 1988 г. БАСу) вызваліцца ад ранейшай ролі „адзінага прадстаўніка" беларусаў у Польшчы, якая тады дазвалялася і поўнасцю кантралявалася ведамствам унутраных спраў. Не прызнаў ён разнастайнасці беларускага асяроддзя, імкнучыся сканцэнтраваць у сваіх руках цэласнасць культурнай, асветнай, навуковай, а таксама і палітычнай актыўнасці. Некалькі гадоў адмоўна ставіўся ён да БАСу, не прыслухоўваўся да аргументаў моладзі, якая, аднак, часам мае рацыю.

### БОЯЗЬ ПЕРАД ДЭЦЭНТРАЛІЗАЦЫЯЙ

Абсурдная сітуацыя стварылася падчас дыскусіі над статутам Таварыства, калі трэба было ўзгодніць, ці аддзелы будуць мець гарантаваную юрыдычную самастойнасць. Старшыня Статутовай камісіі Фёдар Галёнка зачытаў з праекта, што „аддзелы маюць статус юрыдычнай асобы". Вядучы абрады Ян Сычэўскі пачаткова катэгарычна гэтаму запярэчыў і заявіў, што ніжэйшым структурам нельга аўтаматычна мець такія правы і спаслаўся нават на неіснуючы закон аб меншасцях (меў ён хіба на ўвазе закон аб таварыствах). Ф. Галёнка напомніў аднак юрыдычную практыку, доказваючы сваю слушнасць і тады збянтэжаны будучы старшыня адмовіўся ад сваёй пазіцыі. У гэтай справе хапіла б глянуць у „Dziennik Ustaw RP" н-р 14 ад 13 сакавіка 1990 г. і прачытаць папраўку да закону аб таварыствах (арт. 1, абзац 3), якая паясняе, што ў статуце можна запісаць такую фармулёўку, якую прапанаваў Ф. Галёнка. На гэты просты спосаб ніводзін з бакоў не звярнуў увагі.

Разумею боязь Яна Сычэўскага перад дэцэнтралізацыяй у Таварыстве. Возьмем, для прыкладу, народныя фэстыны ў гмінах (на тэрыторыі паасобных аддзелаў), на якія Міністэрства культуры і мастацтва прызначыла ў гэтым годзе 90 мільёнаў злотых. Частка грошай можа зараз бесперашкодна перадавацца ў аддзелы, якія самі ўмеюць арганізаваць у сябе такія мерапрыемствы. У мяне няма сумненняў, што аддзел БГКТ у Бельску-Палдяшскім, так як і ў мінулым годзе, сам сарганізуе фэстын, але ўжо з фінансавай падтрымкай Міністэрства, бо тады ГП не дало ні залатоўкі. Варта пры нагодзе паясніць, чаму ў Бельску няма непаладкаў паміж арганізацыямі. Прычына простая, бо: 1/ усе асноўныя дзеячы займаюцца пытаннямі, якія найлепш ведаюць, і ўзаемна сабе дапамагаюць, 2/ пастунова ў дзейнасць уключаюцца маладыя людзі, якія маюць рэальны ўплыў на кшталт рашэнняў, важных для нашага асяроддзя.

### СХОД ВЕТЭРАНАЎ

Удзельнікі З'езда павінны глянуць на свой узрост. Дэлегаты на З'ездзе нагадвалі сход ветэранаў, якому не пад сілу вырашаць узнікаючыя праблемы. Пачаткова я — шчыра ў гэтым прызнаюся — спадзяваўся, што гэтым людзям удасца прыняць канструктыўныя рашэнні, але шокам для мяне сталі некаторыя іх выказванні. Ветэран БГКТ Віктар Храноўскі, які ўспамінаў заснаванне арганізацыі ў 1956 г. — і які слушна ганарыўся тым, што заўсёды меў адвагу прызнацца да беларускасці — даючы сваю ацэнку „ворагаў Таварыства", паставіў на адну дошку фашысцкую літаратуру, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, контррэвалюцыйныя войскі Булак-Балаховіча і ўсю сям'ю Латышонкаў. Атрымалася з гэтага татальная недарэчнасць, якой, мабыць, гэты чалавек і не ўяўляе. Таксама бязглуздай была рада аднаго дэлегата з Міхалова, які сядзеў насупраць мяне. Падчас галасавання над пастановамі, бачачы іх агульны і валюнтарысцкі характар, я не галасаваў „за" і тады гэты шчыры пенсіянер стаў мяне пераконваць, каб я не ўстрымоўваўся ад голасу і далучыў да большасці дэлегатаў, якія падтрымалі пастулаты, прапанаваныя старшынёю адпаведнай камісіі. Гаварыў мне ён, што „прыгажэй будуць выглядаць дакументы, калі ўсе прагаласуюць „за". Не ведаў ён, відаць, што дэмакратычны сацыялізм закончыўся 4 чэрвеня 1989 года.

### НЯШЧАСЦЕ БГКТ

— няўмеласць кіраўнікоў гэтай арганізацыі знайсці сваё месца ў новых умовах. Расце ўжо другое пакаленне беларусаў, якое выхоўваецца ў Беластоку, Бельску, Гайнаўцы, Сямяцічах, Саколцы і якіх не вабіць фальклорна-сентыментальная атмасфера, у якой апынуўся немалады ўжо актыў Таварыства, пастунова страчваючы свае пазіцыі. Нешматлікая вясковая моладзь, якая паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, таксама становіцца падобнай да большасці сваіх гарадскіх равеснікаў. Свет, у якім жывуць дзеячы Таварыства, адыходзіць у мінулае, але гэтай праўды старшыня А. Баршчэўскі ўсвядоміць сабе не хоча. Выхаваны на лозунгах рэальнага сацыялізму пяцідзесятых гадоў, ён не здолеў змяніцца і гадамі адмоўна ўздзейнічаў на сваё акружэнне. Гэта адхіліла вельмі многіх маладых людзей ад дзейнасці на карысць беларускай грамадскасці. Трэба спадзявацца, што новы старшыня не будзе падвяргацца ўплывам Баршчэўскага, які хай сабе будзе намінальным ганаровым старшынёю.

### ЧАС ПАЧАЦЬ СУПОЛЬНУЮ ПРАЦУ

Старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Алег Латышонак у сваёй прамове на З'ездзе БГКТ адкрыта сказаў, што бурны, пераходны перыяд, на яго думку, адыходзіць у нябыт, што час пачаць супольную працу на агульную карысць. Можна гэтыя словы палічыць працягнутай рукой у бок новых улад Таварыства, а асабліва да сённяшняга старшыні Яна Сычэўскага. Як будзе весці сябе кіраўніцтва БГКТ, пакажуць найбліжэйшыя месяцы.

**СЛАВАМІР ІВАНЮК**

**P. S.** На працягу тыдня пасля З'езда беластоцкі друк змясціў многа артыкулаў аб нашай грамадскасці, ставячы на першы план канфлікт вакол „Нівы". Я сумняваюся ў аб'ектыўнасці гэтых журналістаў, якія глядзяць на нашыя беларускія праблемы праз прызму сенсацыйнасці. Іх тэксты паказваюць рэчаіснасць у крывым люстры, няма ў іх канкрэтаў і служаць яны толькі падтрымцы нядобрых настрояў сярод беларусаў. На Беласточчыне ў нас усё яшчэ больш непрыяцеляў, чым прыхільных нам саюзнікаў.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*МІРА ЛУКША*

**АВЕЧКА МЭЛЯ**

Ідзе авечка
У мястэчка.
Як пагандлюе,
Грош натаргуе -
Глядзіце ж, людзі:
Буяніць будзе,
Мэлечка!

Ідзе авечка
У мястэчка,
Прадасць пшаніцу,
Купіць - спадніцу
У складку-закладку,
З узорам гладкім,
Мэлечка!

Ідзе авечка
У мястэчка,
Зойдзе ў сталоўку,
Купіць... літроўку!..
Ці ж забалюе?
Справу змарнуе,
Мэлечка?!

Аўтам з мястэчка,
З сястрой стрыечнай
Едзе авечка
І вязе... сечку.
Аўсяну сечку?
У вёску з мястэчка?!
Ой, Мэлечка!..

*УЛАДЗІМІР СКАРЫНКІН*

**НА РАЦЭ**

*(Верш для дзяцей, якія вучацца вымаўляць літару "Р")*

Гарачэй кастра зара -
На раку пара з двара.
Пырскі...
- З крыкамі "Ура!"
З круч нырае дзетвара.

Рак-маруда праз раку
Перапоўз па быстраку -
І гарэзе-рыбаку
Раптам трапіў у руку.

Трубіць рэха берагам:
Рак прыблізна з кілаграм!
Рогат, жарты, тарарам...
Добра на рацэ сябрам.



## ПАРАДЫ НАШЫХ ПРОДКАЎ

Добра было б, каб кожны беларус...

...руліўся, каб на вёсцы асталіся ўсе даўнейшыя беларускія звычаі, гульні і г.д.;

...навучыў хоць бы двух беларусаў чытаць і пісаць па-беларуску;

...меў у сябе маленькую бібліятэку з беларускіх кніжак;

...руліўся, каб у старшыні, у старасты выбіралі найлепшых, найбольш справядлівых людзей.

*(Па матэрыялах старых беларускіх календароў)*



*- Урэшце мы - на волі! Вітаем канікулы!*

## ПЫШКА

Стаяла лютая зіма з траскучымі маразамі і шалёнымі завірухамі. Дрэвы і кусты былі апрануты ў белыя футры. Цяжка было ўсім. Пра птушак і казаць няма чаго. Голад і холад гналі іх бліжэй да чалавека. Там яны спадзяваліся хоць чым-небудзь пажывіцца.

У адзін з такіх дзён да нас у хату праз выпадкова адчыненыя дзверы ўляцела сінічка. Галодная і стомленая, яна адразу села на шафу і тужліва пазірала на нас сваімі чорнымі вочкамі. Мы з братам прыталіся. Сінічка супакоілася, з шафы скокнула на стол, які мы не паспелі прыбраць пасля снедання. Яна падзяўбла хлебных крошак, папіла малочнага супу з недаедзенай талеркі і павесялела. "Пінь-пінь-пінь!" - рассыпаліся яе пяшчотныя званочкі па хаце. Птушачка скокнула зноў на шафу, адтуль на палічку. Была яна ў святочным убранні, зграбная і прыгожая.

- Глядзі, сапраўдная пышка! - усклікнуў брат. І гэта нечаканая мянушка прыстала да птушачкі.

Дзверы ў хаце раз-пораз адчыняліся, але Пышка і не думала вылятаць. Не кідалася яна і ў вокны. Відаць, ёй спадабалася тут і яна вырашыла пасяліцца надоўга.

- Зрабіце госці кармушку пад столлю і шост для адпачынку, - параіла нам бабуля.

Мы ўзяліся за работу, забыўшыся на Мурку, якая даўно пільна і падазрона сачыла з-за коміна за сінічкай.

Апомніліся толькі тады, калі пачулі кароткае "мяў" і трывожны піск сінічкі. Гэта яна захацела зноў падкарміцца, але Мурка бясшумна падкралася з-за стала і налящела на птушачку. Мы своечасова кінуліся на дапамогу. Мурка паспела вырваць у сінічкі з хваста толькі некалькі пярынак.

Каб адвучыць яе ад сінічкі, зрабілі так: я моцна трымаў за карак і лапы Мурку, а брат паднёс усутыч да яе птушачку. На наша здзіўленне, Пышка не спалохалася кошкі, пэўна, адчувала яе бездапаможнасць. Калі ж сінічка сваімі вострымі кіпцюрыкамі ўчапілася Мурцы ў нос, тая рванулася з маіх рук, нечакана вызвалілася і стрымгалоў кінулася з жаласным мяўканнем пад печ.

- Цяпер няхай пасядзіць на "гаўптвахце", - засмяяўся брат.

- Гэта ёй сапраўды не пашкодзіць, ды і Пышцы будзе спакайней, - згадзілася бабуля.

З гэтага часу Мурка не выказвала варожых адносін да сінічкі, а Пышка не мела ахвоты апускацца да яе блізка. Так і пражылі яны мірна некалькі зімовых месяцаў. Сінічка весела шчабятала, а кошка бесклапотна муркала сабе пад нос, пазіраючы на яе. Больш таго, Мурка аднойчы занепакоілася, доўга не знаходзячы сваю крылатую сяброўку.

А здарылася вось што. Аднойчы ціхім сонечным днём мы з братам каталіся на лыжах. Дома засталася бабуля. У хату зайшоў муж нашай настаўніцы. Натуральна, ён звярнуў увагу на сінічку і яе вясёлае шчабятанне. Пышка спадабалася яму, і ён, бацька трох малых дзяцей, упрасіў бабулю аддаць сінічку яму, абяцаючы добра даглядаць. Бабуля нехаця згадзілася.

Так Пышка апынулася на краі вёскі ў хаце нашай настаўніцы.

Мы з татам засмуціліся такой навіной, а Мурка шастала па ўсіх кутках, шукаючы сяброўку. Не знайшоўшы яе, самотна церлася ля нашых ног, нібы спрабуючы апраўдацца, што ні ў чым не вінавата. Мы падзялілі яе сум і суцяшалі сябе тым, што хутка прыйдзе вясна і Пышка сама пакінула б нас. Ды і настаўніцу Ганну Адамаўну паважалі надта.

Як жа ўсе здзівіліся, калі назаўтра раніцай зноў пачулі ў хаце звонкае шчабятанне. Гэта вярнулася Пышка, і не адна: з ёю была сяброўка.

Як мы ўзрадаваліся!

Прыйшла вясна. Сінічкі ўсё часцей вылятаці ў сад праз адчыненую фортку і ўсё радзей вярталіся ў хату. Нарэшце ў апошні раз яны весела пакружыліся па хаце, дружна прашчабяталі развітальную песню, нібы дзякуючы нам за ласку і клопаты, і зніклі ў блакітным небе.

**ВІТАЛЬ ПАТДАНІК**

*ВАЛЯНЦІН ЛУКША*

**ЛЯСНОЕ РЭХА**

*казка*

Жыў-быў Янка Пастух.
Статак пасвіў штодня ён у лесе,
На жалейцы іграў
Мілагучныя шчырыя песні.
Беднасць гнула яго,
Аднагодкаў не ведаў вясковых.
Хоць міналі гады,
Не знаходзіў ён шчасця падкову.
Ды аднойчы, як сонца
Схілілася ў лесе на вечар,
Статак Янка паклікаў —
Не даклікаўся толькі авечак.
Думаў-думаў пастух,
Як адвесці бядоту такую,
І нарэшце пайшоў
У нямую глушэчу лясную.
Раптам чорны віхор
Застагнаў, закружыўся навокал.
І спыніў пастуха —
І назад і наперад ні кроку.
І пастух зразумеў:
Прывяла яго сцежка якраз
У зялёнае царства
Сівога Ляснога Цара.
Зразумеў: напаткала ў глушэчы
Яшчэ адно гора —
Апынуўся пастух
У глыбокай-глыбокай пячоры.
Зразумеў: тут крычы не крычы —
Хто пачуе у лесе?
Ён жалейку узяў —
Палілася чароўная песня.
Азірнуўся пасля
І убачыў Зялёнае Дзіва.
У пячору ўвайшло яно,
Кажа, глянуўшы крыва:
— Цар Лясны мяне, Дзіва,
Багацці паслаў вартаваць,
Вас, цікаўных людзей,
У глыбокай пячоры хаваць...
І пастух расказаў,
Што без справы любімай застаўся.
І пастух расказаў,
Як згубіўся надоечы статак.
Зноў жалейку узяў —
Палілася з пячоры па лесе
Прыгажосці дзівоснай
Зямная натхнёная песня.
Дзіва слухала моўчкі,
У лад галавою ківала.
Як аціхла мелодыя,
Гэтак музыку сказала:
— Толькі чысты душою
Узнёсла так здольны іграць.
Шлях табе я адкрыю
З пячоры Ляснога Цара.
Ты вяскоўцам раскажаш,
Якія багацці у лесе.
Хай жа людзі спяваюць
Шчаслівыя, светлыя песні!

— Можа разам пайсці нам? —
Пытае пастух асцярожна.
— Не, — адказвае Дзіва, —
Пайсці да людзей мне няможна.
Лёс такі мне прызначаны —
Людзям адкрыю я нетры
І растану адразу
У водарным мяккім паветры.
І зраблюся адразу
На гора, а можа, на ўцеху
Маладым, трапяткім,
Шматгалосым, шматколерным рэхам.
І пастух адказаў:
— Мне багаццяў ніякіх не трэба.
Толькі б сонца убачыць,
І статак, і сіняе неба..
Зноўку чорны віхор
Застагнаў, закружыўся навокал.
І падняўся пастух над зямлёю
Высока-высока.
Ажно вочы заплюшчыў.
А як прахапіўся — што стала! —
На знаёмай палянцы
Пад сонцам увесь яго статак.
І ад шчасця ў вачах
Засвяціўся вясёлы агонь.
І ад шчасця ён крыкнуў:
— О-го-го!..
Сам здзівіўся пасля.
— Што за дзіва? — уголас гадае.
Чыйсці голас яго
У глушэчы лясной паўтарае.
І пастух зразумеў:
Паўтарае Зялёнае Дзіва,
Каб на свеце жылі
Людзі светла, багата, шчасліва.

З той пары чалавек
Лес як лепшага сябра вітае,
Шматгалосае Дзіва
Ён Рэхам Лясным называе.

# НАШЫ АДЗІНОКІЯ СТАРЫЯ
## - 1 -

*Шчаслівы той,*
*хто продкаў*
*з чыстым сэрцам паважае.*
*І. Гётэ*

У мастака Людмілы Кісялёвай ёсць работа, якую яна назвала "Адна". Адзінокая, усімі забытая бабулька сядзіць, абапёршыся на стол, прыкрыўшы далонню вочы. Напэўна, глытае слёзы крыўды, смугі. Перад ёй - шклянка халоднага чаю. На выстаўцы людзі падоўгу стаялі перад гэтай карцінай. Аб чым яны думалі? Аб старых, бездапаможных? Ці аб сабе?

У. А. Сухамлінскі пісаў: "Старасць не можа быць шчасцем. Гэта невукі выдумалі словы "шчаслівая старасць". Старасць можа быць ці спакоем, ці горам. Старасць спакойная, калі яе паважаюць. Старасць гаротная, калі старога забываюць, кідаюць у адзіноце". Чалавек, які забыўся пра доўг перад роднай маці, дачкой, сынам, бацькам, не можа быць адказным за ўсё жывое на зямлі, не можа быць грамадзянінам. А грамадзянскае пачуццё - гэта перш за ўсё пачуццё доўгу перад сям'ёй, перад Радзімай, перад грамадствам. Па адносінах дзяцей да маці, бацькі можна меркаваць аб маральных якасцях чалавека.

Усё часцей выказваецца думка, што настаў час распрацаваць канкрэтны закон аб адказнасці дзяцей за лёс сваіх старых бацькоў. Вельмі частымі сталі ў апошнія гады выпадкі, калі клопат гэты дзеці і ўнукі стараюцца перакласці на дзяржаву, на грамадскія арганізацыі, а то і на чужых людзей.

Зразумела, у маладых многа сваіх праблем. У тым ліку і ў сваёй сям'і. Акрамя таго, хочацца і ў тэатр схадзіць, у кіно, у госці. Усё гэта натуральна і зразумела. Але за штодзённымі клопатамі нельга забываць аб родных людзях. На жаль, вельмі многа эгаізму, прывычкі жыць без абавязкаў з'явіліся ў нас у грамадстве. Дарослыя дзеці, унукі часта забываюць аб сваім абавязку стварыць старым бацькам, дзядулям і бабулям неабходныя ўмовы для спакойнага і належнага жыцця ў старасці.

Нярэдка ўзаемаадносіны ў сям'і складваюцца так, што пажылы чалавек пападае ў паласу адчужэння - маладым часам здаецца, што іх меркаванне важней за ўсё. А не думаюць аб тым, што старыя вельмі востра адчуваюць самыя дробныя адценні інтанацый пры размовах. У гэтым узросце пажылыя асабліва крыўдлівыя, і не лічыцца з гэтым нельга.

Непавага да старасці - гэта дрэнна. Але павага не вырастае на пустым месцы. Чуласць, дабрыня, спагадлівасць, здольнасць зразумець і раздзяліць клопаты бліжніх - вось багатая глеба для яе. Калі ж у людзей сфарміравана маральная культура, то слова "мудрасць" і "старасць" становяцца сінонімамі. Тады нам вельмі не хапае нашых мілых старых, іх разумных вачэй і добрых слоў, дакучлівых парад.

Узаемаадносіны бацькоў і дзяцей тонкія і ранімыя. Часцей мы гаворым аб пачуцці доўгу. Што гэта - пачуццё доўгу? Таксама і непарыўная душэўная сувязь. Што злучае і што разлучае родных людзей? Як часта цяпер пры вырашэнні таго ці іншага сямейнага канфлікту ў якасці галоўных доказаў любві прыводзіцца выключна матэрыяльная дабрадзейнасць. Аб якой маральнай аснове ўзаемаадносін можа ісці тады гаворка?

*(Працяг у наступным нумары)*
**В.БАЛЦЭВІЧ,**
**Л.ГАРБАЦЕНКАВА**

# СТАРАЯ ЯЛІНА

Яліна была дарагая не толькі для мяне, але і для вавёрак. Яна расла за нашай хатай, на тлустым чарназёме, і штогод голле аж трашчала ад цяжкіх, нібы адлітых з медзі, шышак. Зімою я любіў назіраць, як на зялёным дрэве вавёркі лушчаць шышкі, ласуюцца духмяным насеннем.

...У той дзень я сказаў дома:
- Будзе дождж!
- Хмара над пасёлкам? - спытала бабуля.
- Дождж пойдзе пасля абеду.
- Які дождж! - не паверыла бабуля. - Сонца ж у небе.

А я сказаў пра дождж з упэўненасцю. Чаму?

Аднаго разу было надта горача. Я прыйшоў на луг, схаваўся ў цянёк, пад густое голле вярбы, што здалёк нагадвала стог сена. Тонкія галінкі звісалі да самага долу. Лісцікі на іх вузенькія, прадаўгаватыя, з аднаго боку зялёныя і гладкія, як шкло, а з другога - шэранькія, аксамітныя. Раптам на мяне ўпалі халодныя кропелькі вады, хоць неба было чыстае. А праз некалькі гадзін пайшоў дождж.

З таго часу я прыкмеціў: калі вярба заплача - абавязкова будзе дождж.

Вось і ў той дзень вярба прадказвала мне, якое будзе надвор'е.

Пасля абеду я пачаў узірацца ў неба. Яно было чыстае-чыстае, без адзінага воблачка.

Я занепакоіўся. Ды вось у блакіце з'явіліся першыя аблачынкі. І - дзіва! - недзе за лесам працяжна азваўся гром.

Пасёлак, сады, луг - усё заліта яркім сонцам. А з-за лесу насоўвалася чорная хмара, раз-пораз чуваць былі цяжкія раскаты грому.

Неўзабаве хмара закрыла паўнеба, і над зямлёй павісла густая шэрая сетка дажджу.

У нашай хаце стала цёмна як вечарам. Я даткнуўся ілбом да шыбы і ўбачыў, як фіялетавая маланка ўдарыла па яліне. Старое дрэва загарэлася, ператварылася ў гіганцкі вогненны слуп.

Доўга бушавала навальніца, як з вядра ліў дождж. А калі ў небе зноў заззяла сонца, я выбег з хаты. Са слязамі на вачах глядзеў на тоўсты чорны камель, на якім густа выступілі кроплі смалы. Здавалася, камель таксама плача.

Ні ў той дзень, ні назаўтра вавёркі не з'явіліся.

**МІКОЛА КОРЗУН**

# ЖЫВАЯ ВАДА

Дзед кліча Алеську "нулёўкай". Гэта таму, што вучыцца яна ў падрыхтоўчым, нулявым класе. Там яна знаходзіцца цэлы дзень: разам з такімі ж, як сама, дзяўчынкамі і хлопчыкамі малюе, рашае задачы, чытае.

Аднойчы дзед узяў бітончык, спытаў:
- Пойдзеш, Алеся, са мной па жывую ваду?
- Пайду, - падахвоцілася дзяўчынка.
- Але ж гэта далекавата. Не стомішся?
- Не стамлюся, - запэўніла Алеся.

Прайшлі паўз новы вялікі кінатэатр "Юбілейны", спусціліся з гары да Сожа.

Пад гарою, у бетонным "пярсцёнку", бруілася крынічка. Чыстая, як крышталь, вада пераливалася праз металічную сетку, умацаваную ў "пярсцёнак". Дзед падставіў бітончык, і вада тугім струменнем ударыла ў дно.

Назад ішлі паціху, не спяшаліся. Алеська, трымаючыся за левую, параненую на вайне дзедаву руку, спыталася:
- А чаму гэту ваду ты называеш жывой?
- Бо яна б'е з самых глыбінь зямлі. Nап'ешся, дык адразу жвавейшы станеш. Адным словам - жывая вада.

Падымацца на гару было цяжка. Алеська часта дыхала, адставала ад дзеда. А яшчэ ж не дайшлі да чырвонага будынка кінатэатра.
- Дзядуля, стамілася я, - захныкала Алеська. - Ножкі зусім не хочуць ісці.
- А ты глытні жывой вадзічкі. Адразу сіл прыбавіцца.

Дзед наліў у вечка ад бітончыка вады, падаў Алесі. Вада была прыемная на смак, халодная, як з халадзільніка. Напілася Алеся - і, праўда, быццам сіл прыбавілася. Подскакам апярэдзіла дзеда.

Дома маці спыталася:
- Ну, пойдзеш яшчэ па жывую ваду?
- Пайду, - адказала Алеся. - Толькі купі мне маленькі бітончык.

**МІХАСЬ ДАНІЛЕНКА**

# КАЛЯРОВАЯ "ЗОРКА"



*Памалюй палі пазначаныя крыжыкам - жоўтым, рыскай - цёмна-карычневым, кропкай - чырвоным, колцам - светла-карычневым колерам.*



*ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ*

# МЕТЭАРЫТЫ

У цёмную бязвоблачную ноч на зорным небе можна ўбачыць яркую светлую паласу - зорку-знічку. Гэта метэор. Цвёрдыя часцінкі масай да сотых доляў грама рухаюцца ў атмасферы Зямлі з вялікай хуткасцю, ад трэння награваюцца да некалькіх тысяч градусаў і згараюць пакідаючы яркі след. Калі ў атмасферы Зямлі аказваецца цела вялікіх памераў, яно поўнасцю не згарае, частка яго можа ўпасці на зямную паверхню. Гэта і ёсць "нябесныя камяні" - метэарыты. Яны даюць магчымасць даследчыкам зрабіць вывад аб складзе і будове Зямлі, іншых планет і цел Сонечнай сістэмы.

Усе метэарыты па будове і хімічнаму саставу падзяляюцца на тры групы: жалезныя, жалезна-каменныя (паласіты і мезасідэрыты) і каменныя (хандрыты і ахандрыты). Па статыстыцы, на плошчу зямной паверхні ў 1 мільён квадратных кіламетраў падае ў сярэднім 3 метэарыты ў год. На тэрыторыі Беларусі зафіксавана падзенне шасці метэарытаў. Найбольш вядомы з беларускіх "нябесных камянёў" - метэарыт Брагін (назва звычайна даецца па месцу падзення). Дакладны час яго падзення невядомы. Асобныя асколкі знаходзілі з 1807 па 1968 год. Агульная маса метэарыта - 800 кілаграмаў.

Маса асколка, знойдзенага ў 1952 годзе ў раёне в. Крупкі — 73 кілаграмы.

У жніўні 1858 года каля сяла Жмень (цяпер Столінскі раён Брэсцкай вобласці) назіраўся палёт баліда, які суправаджаўся рэзкім свістам. Знойдзены адзін асколак масай 246 грамаў. Па саставу гэты метэарыт належыць да групы каменных.

22 верасня 1893 года ў вёсцы Забароддзе Мінскай вобласці ўпаў і прабіў дах дома каменны метэарыт масай 3 кілаграмы 155 грамаў.

У 1954 годзе ў раёне Грэска Мінскай вобласці знойдзены метэарыт масай 300,4 кілаграма. Па саставу ён належыць да жалезных, да рэдкага віду гексаэдрытаў. Асноўная частка захоўваецца ў калекцыі Інстытута геахіміі і геафізікі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

**М. ДАВЫДАЎ**

# МАКАТРАЗМЫ

### ПОЛЬКА-МАКАТРАНКА

І прышла наша пара,
Макатру раскруцім!
Прушынскага на цара!
Эх, Грышка Распуцін!

### ФАКС

Ідучы на выбары,
Напрамак гербавы бяры.

**СІДАР МАКАЦЁР**

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Барометр** — дзіўнае прыстасаванне, якое паказвае надвор'е, што мы цяпер маем.
**Батаніка** — навука пра расліны. Пра нядомыя, таксама як і пра ядомыя. У асноўным апісвае кветкі, дызайн якіх звычайна жахлівы, колер — неартыстычны, пах — непераносны.
**Бахус** — вельмі прыдатнае бажаство, якое прыдумалі старажытныя людзі, каб апраўдаць п'янства.
**Баязлівец** — чалавек, які ў небяспечнай сітуацыі думае нагамі.
**Безабаронны** — не ў стане атакаваць.
**Беладона** — у перакладзе з італьянскай: „прыгожая жанчына", у перакладзе з англійскай: „смяротная атрута". Дзіўны прыклад супадзення асноўнага значэння слова ў розных мовах.
**Белы** — чорны.
**Бітва** — метад развязвання палітычнага вузла зубамі, калі ён не паддаецца языку.
**Браня** — вопратка чалавека, кравец якой з'яўляецца кавалём.
**Браць** — атрымліваць. Часта сілай, але лепей — крадзяжом.

*З англійскай пераклаў Алесь Кудраўцаў*

## СЕНТЭНЦЫІ

Не ашчэрвайся — зубы ад скразняку спарахнеюць.

* * *

Хвост, які прыкідваўся галавою, адсеклі ў рамках скарачэння штатаў.

* * *

Салодкія словы — уступ да горкай гаворкі.

* * *

Адвага не ў словах, а ў розуме.

* * *

Вочы каханне азмрочвае.

**БАРЫС РУСКО**

# НІЎКА

*Мал. В. Ключніка*

## СМЕХАТЭРАПІЯ

### НАВІНЫ КАСМАНАЎТЫКІ

Як паведамлялася раней, касмічная арбітальная станцыя „Прывітанне" ўпала ў зададзеным раёне. Месцазнаходжанне зададзенага раёна ўдакладняецца.

### УСЁ ДЛЯ ЧАЛАВЕКА

У Загібаўскім мікрараёне адкрываецца новы дыска-клуб, у якім пастаянна будуць дзейнічаць тры секцыі: „Для тых, каму за...", „Для тых, каму да..." і „Для тых, каму ўсё да...".

### АБ'ЯВА

Кінастудыі „Масфільм" патрабуецца 2 мільярды статыстаў для ўдзелу ў здымках фільма па матывах песні „Калі б хлопцы ўсёй Зямлі".

### КРЫМІНАЛ

У расійскім Белым доме знойдзена падслухоўваючае прыстасаванне. Яно было ўманціравана ў мікрафон на цэнтральнай трыбуне.

*„Звязда"*

## ПАРОДЫІ

### ТАКОЕ МОЦНАЕ КАХАННЕ

*Па дзюнах ля ляска грыбнога*
*Са мною побач ты ішла.*
*Навокал не было нічога —*
*Адны абломкі НЛА.*
.................
*... І ты ў мяне перацякала,*
*А я ў цябе перацякаў*

**УЛАДЗІМІР СКАРЫНКІН**

Снуюць па небе верталёты,
А на зямлі — вада, вада,
Заглухлі „Волгі" і „Таёты"
Па стэпах і па гарадах.

Заціхлі на будоўлях краны,
Нібы буслы ў вадзе стаяць,
І нехта там, бы коннік п'яны,
Свой НЛА пачаў сядлаць.

Напэўна, моцна напужаўся,
Звычайнай рэчы не дапёк:
Паэт Скарынкін закахаўся
І раптам моцна так пацёк!

**ЯНУСЬ МАЛЕЦ**

## НЕВІДЗІМКІ

Адзін вучоны міліцыянер прыдумаў новы спосаб барацьбы з п'янствам — шапку-невідзімку. Прынцып дзеяння шапкі быў просты. Калі чалавек п'яны, шапка робіць яго нябачным, а калі пачынае працверажацца, дык паступова праяўляецца, як адлюстраванне на фотапаперы.

Па вуліцах пачалі ездзіць машыны „Спецмедслужбы", даверху набітыя шапкамі. На ўсякі выпадак шапкі прымяралі ўсім запар. Многія грамадзяне адразу ж знікалі.

У горадзе стала пустынна. Зрэдку трапляліся жанчыны і дзеці. Ездзілі пустыя аўтобусы, з якіх чуліся п'яныя крыкі. Але на першы погляд быў поўны парадак.

Мінулі суткі, а ніхто з невідзімак не праявіўся. Тады здагадаліся, што вынаходства да канца не прадумана. Справа ў тым, што грамадзяне ўхітрыліся нябачна апахмяляцца, падтрымліваючы сябе ў тым самым стане.

Давялося даць гарэлкі дружыннікам, апрануць іх у шапкі і накіраваць туды. Цяпер нябачныя дружыннікі ловяць нябачных п'яніц, а мы тут сядзім і нічога не ведаем.

**АЛЯКСАНДР ЖЫЦІНСКІ**

## МІЖ НАМІ КАЖУЧЫ...

Марэк заўсёды прыходзіў дахаты добра нападпітку. Жонцы гэта абрыдла, і яна пытаецца:
— А што б зрабіў ты, каб я з'явілася ў такім свінскім выглядзе хоць аднойчы?
— Як гэта што? Унёс бы дахаты на руках, а потым бы добра адлупцаваў! — адразу адказаў Марэк.
— То і я зараз гэтак зраблю! — адказала жонка.

* * *

На вясковай забаве малады хлопец туліцца да дзяўчыны. Бачыць — музыкант, што грае скокі, увесь час чырванее са злосці, гледзячы на яго.
— Хто гэта? — пытаецца хлопец у дзяўчыны.
— То гэта мой муж, — кажа дзяўчына неяк абыякава. — Хай сам бачыць, каб, нарэшце, зразумеў, чаго я вартая. А то ўвесь час гаворыць, што на мяне нават здзічэлы кот вока не пакладзе...

* * *

Прыехаў аднаго разу на Каляды Мікола з Амерыкі — меў ён там добрую працу, грошы зарабляў. Сустракае яго пяцігадовы сын:
— Тата! Тата! — закрычаў ён. — Учора Дзед Мароз прынёс мне падарункі — лыжы, санкі, відэа ды шмат чаго іншага, а потым спяваў ды танцаваў з мамуляй. А цяпер яны яшчэ спяць, бо вельмі стаміліся...

* * *

— Нарадзіла ты гэтых дзяцей, дурніца! — дапякала Верка Марысю.
— Ну і добра, — адказала тая. — Мне мае дзеці хоць перад смерцю кубачак вады пададуць, а ты паміраць будзеш — хто табе што падасць? Бо маеш толькі сына Бобіка ды дачку Мурку...

**АЎРОРА**

*- Ну, добра, Магда! Я прызнаюся, што выняў 3,5 кроны са свайго канверта з зарплатай!*

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Ты шмат пішаш пра так званыя „біюровыя" раманы, а ў нас дык проста называюць гэта „раман з бюрвай". Так здарылася і ў маім жыцці, што мой муж закахаўся ў сваю супрацоўніцу. І так закахаўся, што кінуў і мяне, і дзяцей без жалю. Трое дзяцей, падумай!

А тая дзяўчына была маладая, 25 гадоў ёй было. Не была ўжо паненкай, але з мужам сваім не жыла. Разводу не мела, дык і мой муж у мяне разводу не прасіў.

Два гады мой муж раскашаваўся з маладухай. Яму было ўжо 45 гадоў. Відаць, адазваліся яго хваробы, ды і розніца гадоў дала аб сабе знаць, калі абрыд ён ёй. Знайшла яна хлопца па сабе, а мужа майго са свайго дому выгнала. Праўду кажучы, кватэра гэта была супольная, дапамог ёй купіць мой муж, але запісана была на яе. Дзяўчына дурнога мужыка выкарыстала як магла і пусціла, як кажуць, з торбамі.

Што было з ім рабіць?.. Прыняла я яго назад. Жыццё не ўкладаецца ўжо ў нас так як трэба, але я найбольш хацела, каб у дзяцей быў бацька. Здавалася, што будзе мне ён абыякавы, чужы чалавек. І сапраўды, як жа можна было дараваць яму тую здраду, ды і наогул нарабіў жа пасмешышча на паўгорада і ўсю ваколіцу. Сваякоў усюды шмат.

Але з часам сэрца скрушэла. Мы зноў пачалі жыць як муж з жонкай. Ды, на жаль, гэта было ўжо не тое. Калі ён прытуляўся да мяне, я думала, што зусім нядаўна ён прытуляўся да іншай. Яго пацалункі былі халодныя, быццам цалаваў мяне нейкі манекен.

А ўсё ж, калі даведалася я, што тая яго баба ізноў адна, бо той малады чалавек яе кінуў, нешта ў сэрцы закалола. Цяпер, думаю, няхай яна толькі кіўне пальцам, а гэты мой стары дурань ізноў да яе паляціць. І чаго яму там шукаць, здаецца. Сядзеў бы ў хаце, лячыў свае хваробы, займаўся б дзецьмі, каб з класа ў клас перайшлі.

Мой муж ізноў стаў нейкі неспакойны, нервовы. Відаць, змагаецца сам з сабой, я больш чым упэўнена, што ён усё ведае пра сваю кралю, ды толькі не можа рашыцца на тое, каб упасці перад ёю на калені. Ды і невядома, ці прыме яшчэ яго...

Даражэнькае Сэрцайка! Дапамажы, калі ласка, мне ў гэтай сітуацыі. Мне вельмі маркотна, бо мой муж толькі таму вярнуўся дахаты, што не было куды яму падзецца. Я хоць іскрынку надзеі насіла ў сэрцы, што да яго вярнуліся нейкія пачуцці, але цяпер бачу, што ўсё гэта была ілюзія. Нічога ўжо, відаць, не будзе. А мо ёсць нейкае выйсце?

**Ружа**

Ружа! Відаць, ён па-старому закаханы, але не ў цябе, а ў тую дзяўчыну. І калі толькі яна захоча, ён прыбяжыць да яе, як сабачка. Адзінае выйсце было б зацікавіць яго чымсьці іншым. Можна пачаць будаваць дом (вядома, калі ёсць на гэта грошы), можна пачаць хадзіць з ім у цікавую кампанію, ды нават можна было б яму падсунуць нейкую дзеўку, якой мог бы зацікавіцца, але ненадоўга (тут ёсць пэўная рызыка моцнага заангажавання). Найлепш, аднак, было б пераехаць у іншы горад. Новая кватэра, праца, людзі — усё гэта адарвала б яго ад думак пра тую дзяўчыну. Але сёння цяжка з працай, і такая развязка, бадай, табе не ўдасца.

А можна было б яшчэ падставіць той дзяўчыне новага кавалера, калі б, вядома, былі ў цябе такія магчымасці.

А сама ты будзь да яго мілая, быццам бы ніколі нічога не здарылася.

**СЭРЦАЙКА**